


Літаратура і мастацтва

газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

21 ВЕРАСНЯ 2001г. № 38/4122 КОШТ 132 РУБ.


## СКАРБЫ ЧЫРВОНАЙ БРАМЫ

**Пачатак падарожжа ў мастацкі свет Гаўрылы ВАШЧАНКІ, зроблены Віктарам КАРАМАЗАВЫМ**


**5, 14—15**


## РАССТАННЕ З ВЕКАМ

**Пра кнігу польскай паэзіі па-беларуску "Лісце срэбнай таполі. З польскай лірыкі XX ст..." разважае літаратуразнаўца Людміла ЗАРЭМБА.**


**6—7**


## ГУЛЬБА СВЯТЫХ

**Апавяданне Андрэя ФЕДАРЭНКІ**


**8—9, 12**


## У ГАВАРКІХ НЯНЕК ДЗІЦЯ БЕЗ... ПУЦЁЎКІ?

**Уладзімір МАМОНЬКА: "У іншых галінах гаспадаркі сітуацыя крыху лепшая (прадпрыемствы ўсё ж маюць свае летнікі). А што рабіць урачам, настаўнікам, артыстам і бібліятэкарам?"**


**11**


## "ЖЫЦЦЁ — НЕ ЗНІКНЕ..."

**Артур ВОЛЬСКІ: "Літаратура існуе. І тая, якая сябе прыладкоўвае да яе, прыкідваецца літаратурай, і сапраўдная..."**


**13, 15**


### БУДЗЬМА РАЗАМ!

Шаноўныя чытачы! Ідзе падпіска на "ЛіМ" на чацвёрты квартал 2001 года. Падпіску можна аформіць у любым паштовым аддзяленні. Кошт індывідуальнай падпіскі на адзін месяц — 750 рублёў, на тры — 2250 рублёў. Кошт ведамаснай падпіскі на адзін месяц — 2000 рублёў, на тры - 6000 рублёў.

**Індывідуальны індэкс — 63856.**
**Ведамасны індэкс — 63857.**

*Полацк. Крыжаўзвіжанскі сабор і Спаса-Еўфрасіннеўская царква.*

*Фота А. КАЛЯДЫ*

Віктар КАРАМАЗАЎ

# Скарбы чырвонай брамы

## ПАЧАТАК ПАДАРОЖЖА Ў МАСТАЦКІ СВЕТ Гаўрылы ВАШЧАНКІ

### Карані

Жыў-быў Пампей.

У вёсцы Чыкалавічы, пад Брагінам, ён аб'явіўся ціха, але яго заўважылі адразу, і не толькі таму, што вёска ёсць вёска, навылёт прадзімаецца вятрамі ды прастрэльваецца вачамі, але яшчэ таму, што быў Пампей вельмі прыгожы, асілак. Ціха з'явіўшыся, ціха і будавацца пачаў, ды не ў вёсцы, як усе будаваліся ды жылі, а за вёскаю на рэчцы Брагінцы. Людзі думалі, што Пампей будуе сабе дом, а ён ім пабудаваў млын. Падаліся мужыкі на млын зерне малоць і кожны, везучы, казаў: "Еду да мельніка". Гэтак Пампей прыдбаў сабе ў Чыкалавічах яшчэ і прозвішча Мельнік.

А далей — болей: закахалася ў Пампея пані Навашыцкая. Аж сохла па ім. А ён яе не заўважаў. Зазлаваў пан. Ці што пані закахалася ў мужыка, ці што мужык не хацеў яе бачыць? Каб выжыць з Чыкалавіч, пан спаліў яго сядзібу. Яшчэ і вясна пасобіла не мужыку — пану: вадою змыла млын. Надта не бядуючы, Пампей пабудаваў дом у вёсцы, ды самы, на ўсю вёску, вялікі і прыгожы, а за домам паставіў новы млын, вятрак, і ўзяў у жонкі мясцовую сялянскую дзяўчыну. Нарадзіўся ў іх сын Міхась. Далёкай навукі, як і бацька, не шукаў, але ад бацькі пераняў мужыцкую мудрасць, да любой справы здатнасць і грамату. Малоў мужыкам ячмень ды жыта, са свайго мазаля забагацеў і ажаніўся з мясцовай дзяўчынай Ганнай. Нарадзіла Ганна пяцёра дзяцей — Надзею, Віктара, Клаўдзю, Алёну ды Цімоха. Усе яны жылі з зямлі, за зямлю ваявалі і паміралі.

Калі ўсё гэта адбывалася? Можна сказаць, што нядаўна. Міхась нарадзіўся на самым пачатку пражытага стагоддзя, перад першай рускай рэвалюцыяй, а Пампей памёр перад самай калектывізацыяй. Пампея караў пан Навашыцкі, у панства пастаўлены царом, а Міхася — ГПУ, ад якога мужык змусіў хавацца на Украіне. Будаваў у Чарнобылі яўрэям дамы — як званы, а паміраць вярнуўся ў сваю вёску.

Гэта ўсё радавод ад Пампея Мельніка. Яму ж насустрач, каб парадніцца, прыйшоў род Міны Вашчанкі, таксама мужыцкі.

На свет Міна з'явіўся ў вёсцы Калыбаня, што каля Брагіна, як і Чыкалавічы. 1900 годам ажаніўся з мясцовай дзяўчынай Сынклетай, якая нарадзіла дванаццаць дзяцей. У дваццаць дзевятым Міна памёр, а Сынклета пражыла 118 гадоў, перажыла ўсіх сваіх дзяцей і да апошняга дня працавала.

Харытон, першынец Сынклеты, ажаніўся з Надзеяй Мельнік з роду Пампея. Надзея ўдалася вельмі прыгожая ды працавітая, уся ў дзеда. Да яе сваталіся лепшыя хлопцы, і быў дзень, калі ў вёску наехала ажно шаснаццаць жаніхоў. Але з усіх, сабе па сэрцы, яна выбрала Харытона і ад яго нарадзіла двух сыноў — Мікалая і Гаўрылу. Харытона раскулачылі, выслалі, праз пяць гадоў ён вярнуўся, але яшчэ праз тры гады зноў забралі — як ворага народа, і ён памёр у сібірскім ГУЛАГу. Дом Харытона калгас раскідаў, бярвенне перавёз на сваю будоўлю, і Надзея з малымі сынамі шмат гадоў хадзіла па чужых хатах, пакуль у сям'і не падрасла мужчынская сіла. Калі старэйшаму Мікалаю набегла шаснаццаць, а малодшаму Гаўрылу адзінаццаць і хлопцы ўжо трымалі ў руках сякеры, збудавалі новы дом. Было гэта ў трыццаць восьмым. А праз пяць гадоў, у вайну, дом згарэў падчас бою партызанаў з немцамі. І пачала Надзея з сынамі зноў будавацца. Хоць тым пашанцавала, што з Чарнобыля ў вёску вярнуўся бацька Надзеі — Міхась, сын Пампея, ды што карову паспелі схаваць у лесе і ад немцаў, і ад партызанаў. Дзед Міхась навучыў яе хадзіць у ярме, станавіцца ў плуг, ёю вывезлі бярвенне на дом, аралі зямлю. А тут — галадоўка, пайшоў касіць тыф. Карова была і цяглом, і карміцелькаю — ад усіх бед ратавала. Дом паставілі новы, а Гаўрыла, які вучыўся ўжо ў сёмым класе, яшчэ і адмысловую браму выштукаваў з дугою наверсе.

Ішоў апошні год вайны — 1945.

### Іканастас

Я падняўся на ганак, адчыніў высокія дзверы, за імі завярнуў направа, тарkануў пальцам у белае вока на сцяне і апынуўся ў кабіне ліфта — панесла ў неба. Там быў яшчэ прыпынак, былі белая сцяна і на ёй яшчэ тры вокі — выбраў сярэдняе: дзверы адчыніліся і я ўбачыў перад сабою ветлівы інтэлігентны твар у срэбранай аправе.

— Праходзьце.

Магчыма, я недарэчы ўсміхнуўся, успомніўшы восень, мастацкі салон на праспекце Скарыны ў Мінску, адкрыццё выставы Анатоля Бараноўскага. Было там шмат людзей. Я зняў паліто, ускінуў на вешалку, а як выставу пакідаў, падышоў да вешалкі і паліто апрануў, па кішэнях — цап-лап: дзе шалік? Ён аказаўся ў бакавой кішэні. На шыю ўскінуў: не мой? Мой чырвоны, а тут — сіні. Чужое паліто? Але ж старамоднае рацінавае, шэрае і гузікі мае, блакітам адлівалі. Ды не, маё такое самае вісела побач. На выхадзе з салона знаёмаму прызнаўся, як чорт пабліытаў, а ён ухмыльнуўшыся, мне кажа: "Ты азірніся". Я азірнуўся: тое паліто было ўжо на плячах у Гаўрылы Харытонавіча Вашчанкі, а сіні шалік быў у яго руках. Ну трэба ж улезці мне ў вопратку жывога класіка!

Цяпер я апынуўся ў прасторы мяккага святла і цёплых колераў. Агледзеўся. Тут паядналыя былі два светы — зямны і нябесны. Тут быў сусвет, і не проста быў, а жыў у дзіўных кампазіцыях, формах, колерах, да сябе вабіў і ад сябе адпужваў, супакойваў і насцярожваў, абяцаў рай і край пекла паказваў, каб людзі не падманваліся. Стаялі светлыя хаціны, такія дробныя ў пашчы сусвету, што і святло не ратавала ад хмарнай думкі: якія мы самі — гэтакія нашы сані. Стаялі хаціны, у якіх ніхто не жыў, у высокім бяльняру, сляпыя і глухія, людзьмі пастаўленыя і людзьмі забытыя. Густою сінізною шыкоўна цвілі касачы, у зямное харaство, нібыта на таемную вячэру, зманіўшы з неба маладзік рагаты, хаваючы яго ў сініх схованках. З начное цемры да нябеснага святла ўзляталі коні, адкінуўшы чырвоны пасак страху. У святле ліхтарным, дзе промняў даўжыня была напэўна роўная шляху ад сонца да зямлі, раіліся матылі, падобныя да палявых рамонкаў, і над імі ўзвышалася трывожнае бяздонне — не тое неба, што жыццядайна і ласкава грэла кожны зямны парастак, а чырвоны космас і нават пазакосмас, у якім плылі не хмары, а планеты, паміж якіх кіпела-булькатала гняўлівымі бурбалкамі расплаўленая магма. За чырванню галактык з кратэраў агню ўзляталі галавешкі, з якімі разам ва ўсе бакі страляла каменне попелу. Адтуль, нібыта НЛА, зніжаўся астыла-пасінелы тазік, падобны да льдзіны смерці, з якога, як з вымя дойнае каровы, цурболіў струмень жоўтае атруты і той струмень, выліты на людзей, вёскі, нівы, зямлю прабіўшы, дзе здаўна сеялі, дары збіралі, спявалі ды скакалі ў святы, разліўся атрутнай жоўцю, і адтуль нам, людзям, у рукі пайшло расці калоссе не радасці, а смерці. Вострымі пікамі стаялі, нібыта стражнікі на службе, брамы цемры — вялі ў пекла, стаялі брамы святла — паказвалі рай, брамы чакалі чыстых і нячыстых, праведнікаў і зладзеяў, годных і халуёў, сейбітаў і цмокаў — усім хапала месца. Тут я адчуў, як загуляўся ў хараство прыроды і тым падмануўся ў задоўгіх радасцях — схамянуўся і захістаўся: за што схапіцца, каб утрымацца на сваіх хадулях? Убачыў перад сабою браму і рукі працягнуў да яе. Але адскочыў: яна была з агню. Стаяў насупраць брамы слуп — агняны. На ім віселі кубкі — чырвоные вугалле.

— Сядайце.

Спакойнае слова было ратункам.

Ён, запрасіўшы на канапу, сеў сам, і я сеў побач. Ён разглядаў мяне — што я за птах?

— Прабачце, Гаўрыла Харытонавіч. Так незвычайна тут у вас. Як быццам на зямлі, але і ў небе. І брама...

Ён зноў супакоіў:

— Чырвоная ад сонца. Быў вечар. Сонца заходзіла на пераломе надвор'я. Я пакідаў сваю вёску, ішоў, малады, з чамаданам, у свет не блізкі. За браму выйшаў, азірнуўся — чырвоная, з агню жывога. Сэрца і зашчымела: што абяцае чырвань? Які яшчэ пажар? Можа, вярнуцца? Не, пайшоў. А пасля браму напісаў. У тым колеры, у тым настроі.

Ён, мастак, казаў лагодна, нібы ў агністай чырвані былі ўсяго толькі настрой ды колер. Але задумаўся. І я спытаў, як думку перахапіўшы:

— Настрой і колер брамы спраўдзіліся?

Ён галавой кіўнуў, нібы ў згодзе з маім пытаннем, але змаўчаў. У думках, можа, адчальваў ад брамы, палічыўшы, што ўсё сказаў і сказанага з мяне даволі, астатняе, калі што трэба, мог сам зразумець. А мне адчальваць ад гэтакай знаходкі, брамы, ні ў якім чоўне не было ахвоты. Я адчуваў, што тут не проста брама — вір, выток жыцця, можа, з найпершых, і ад яго павінны разыходзіцца кругі настрояў, думак, вобразаў, якія не знікаюць і не канчаюцца на нейкай лічбе, не маючы канца і межаў, множацца бясконца, ад кожнага круга адскокваe наступны круг, за кругам — круг, як у вандроўніка — за даллю даль. Па іх і трэба плысці, з круга на круг, калі ёсць човен і ты ў чоўне.

Але падняўся ён, выйшаў на сярэдзіну майстэрні, вачыма мяне паклікаў да сябе. Я падышоў, кінуў позірк туды, куды ён глядзеў у гэты момант: насупраць узвышалася сцяна, якую нельга было бачыць з канапы, калі сядзелі да яе спінамі, а на сцяне ў два рады ажно пад столь былі карціны. Я іх заўважыў, як зайшоў у майстэрню, ды адно цяпер убачыў, што тут не проста сцяна і не проста карціны на сцяне — іканастас з нібыта абразамі, рама да рамы, і ў кожнай — выява, калі не чалавека — хвоі, дуба, крыжа, дарогі, печы, буслінага гнязда, і ўсюды, у кожнай раме, дух святасці, хоць і натура не біблейская — наша зямля. Тут было мастацтва, якое будзіла ўва мне пытанні. Пытанняў было шмат. Але мастак, як я паспеў заўважыць, не любіў пытанняў паспешлівых і ў лоб, з прысмакам прымітыву мыслення ці правакацый, не любіў адказваць на іх адразу, нібы па абавязку, трымаў свой лад размовы, як лад любімай працы, чым прымушаў мяне сачыць не толькі за выказаным словам, але за думкаю, якая слова магла і не знайсці, за настроем, што нараджаў і слова, і думку. Я быў, вядома, вольны, як у вольніцы, ён не навязваў свой лад размовы, але што тая воля, калі цікавіла загадка і яе адгадка?

Хвоя — у святой аправе? Ну, вядома, тут — Палессе. нетры якога трымаюць сваімі каранямі дубы ды хвоі. Але ці толькі ў гэтым прычына выбару мастака?

— Пампей, мой прадзед, з'явіўшыся ў Чыкалавічах, пасадзіў тры хвоі, дзве з іх салдаты ссеклі ў час вайны, але адна стаіць, смалой налітая, нібыта корань у зямлі Палесся, ад якога сам род Пампея...

Ну як жа гэтакую хваіну не паставіць у іканастас?

Ці вось млын, вятрак, на беразе рэчкі раскінуў крылы ва ўсе бакі, той самы, які пабудаваў Пампей. Бераг высокі, а млын нашмат вышэйшы. Пад млынам, пад яго крыламі на абрывістым беразе, прыгрэты сонейкам, сядзіць хлопчык, сам — сонейка, звесіў танклявыя ножкі са стромы да вады блакітнай, нібы толькі што з яе выскачыў — галяком на падасланай белае кашульцы. Тут усё дарэшты — кожная былка на зямлі, кожная плямка ў небе, кожная рыска ў хлопчыку і ў ветраку — такое светлае ды чыстае, жывое. Вятрак — нібы сам прадзед у доўгай бурцы са стрэшкай-башлыком раскручвае на ветры магутныя крылы, абшытыя бялюткай палатнінай, ці не той самай, якую ткала маці хлопчыка, унучка Пампея, з якой кашулька яе сынка. Тут усё, усе вобразы і дэталі, адно з адным моцна счэпленае, адно другое высвечвае ды паглыбляе, як, дарэчы, пячуркі ў пясчанай строме, гнёзды стрыжоў — адразу, як іх заўважыш, робяць на таго ж стрыжа падобным хлопчыка. Альбо як цёпла, натуральна глядзяцца адзін з адным вятрак і хлопчык, Пампей і хлопчык, хоць тут няма Пампея, ёсць яго дух, прысутнасць — усё яднае, пранізвае. Не толькі дух Пампея — народа, Палесся.

А печ? Ну, так, звычайная, як у кожнай хаце палешука, з загнеткаю, пячуркамі, з агнём глыбокім у чэраве, дзе чыгункі, гаршчочкі вакол агню бакі грэюць, з фіраначкаю збоку загнеткі, каб печ прапаленую не толькі засланкаю засланіць, але і фіраначкаю зашморгнуць, схаваць яе начынне ад злога вока. Печ у хаце — жыцця аснова, трываласць, цяплынь, святло. Але і гэтакія развагі пільнуе прыдзірлівая думка: печ усё ж першнаперш — гарантыя ад гневу страўніка, каб кішкі, як кажуць, не гралі марш? Тады якое яе права стаяць у іканастасе, дзе права адно — дух?

Пытанне, як тую птушку, рызыкоўна выпускаць на волю — чым вернецца: годным адказам альбо разгубленым маўчаннем печніка, у нашым выпадку — мастака?

А ён ужо каля жаночага партрэта:

— Каця, стрыечная сястра. Яе ўбачыш — печ успомніш. Зіма завейная, белы вецер свішча за вокнамі, у коміне гудзе ды стогне, а мы з ёю ляжым на печы і чытаем "Вія" Гогаля. У нас свая ноч, свой вецер, свае чэрці ў коміне гудуць, шкрабуцца, кожны гук да костачак праймае, і так выразна бачыш бурсака Хаму, як ён ляціць на ведзьме, як адпявае яе ў царкве ноччу, як дамавіна з ведзьмаю лётае вакол яго, як ведзьма з дамавіны вылазіць, Хаму шукае. Тут вецер грымне — зноў здрыганешся, здаецца, што чэрці блізка, да цябе крадуцца, чуеш, як Вій дзвярыма рыпнуў, ідзе па тваю душу — маўчыш, не дыхаеш. То было страхоцце! А ці адно страхоцце?

— А што яшчэ?

— Мы, дзеці, з Гогалем пераадольвалі зямное прыцяжэнне, ляцелі ў неба, у космас, там бывалі, дзе зоркі, месяц, адтуль бачылі сваю зямлю, свае хаціны, печы, як іх бачыў Хама, калі ляцеў на ведзьме.

Тады і печ — не проста кухня, чыгун бульбы, грэлка для спіны, для ног? І гэта ўсё было, вядома, нават найперш — гэта, але ж не толькі гэта — яшчэ і карабель касмічны.

Ну, а дарога як трапіла ў іканастас? Яна — за якія заслугі? За тое, што вяровачкаю віецца паміж людзей, вёсак, гарадоў, усіх і ўсё на зямлі звязвае ў род, абшчыну, народ, дзяржаву? Апрышча нагам ды колам у вандроўках?

— Тут іх дзве побач, — кажа мастак.

— Адна коламі выбітая да белага пяску, аж свеціцца, а другая цёмная, яшчэ не выбітая, пракладзеная ў аб'езд, каб у пяску не грузнуць. Скрозь гэтак на Палессі...

А што яшчэ яны, дзве побач, кажуць, светлая ды цёмная, што ў іх мастак убачыў? Што адна — да святла, другая — у цемень, што ў кожнай свой загон, свая мэта, сваё наканаванне, хоць і ляжаць як быццам побач. Тут ёсць загадка выбару — якой ісці ды ехаць?..

— А ваша першая ў далёкі свет якая?

(Заканчэнне на стар. 14 — 15)



*В. Карамазаў і Г. Вашчанка ў майстэрні мастака*

*Фота Ул. КРУКА*



## ЧАСАПІС

# “На загадкі ёсць адгадкі”




**Іван Карэнда да нядаўнага часу быў вядомы як “дарослы” паэт, толькі зрэдку выступаў у перыёдыцы з творамі для дзяцей. Нядаўна ж прыйшоў да маленькіх чытачоў з кнігай “На загадкі ёсць адгадкі”, якую выпусціла выдавецтва “Юнацтва”. Кніжка невялікая, усяго 36 загадак, але да таго цікавая, што дзіву даешся, чаму аўтар не паспрабаваў сябе ў гэтай галіне творчасці раней. У І. Карэнды не толькі самі загадкі атрымаліся надзіва арыгінальнымі, змястоўнымі. Ён скампанаваў іх так, што атрымалася кніга, аб’яднаная адзінствам задумы. Гэта па сутнасці дыялог паэта са сваімі маленькімі чытачамі альбо слухачамі, калі хлопчыкаў і дзяўчынак з загадкамі пазнаёмяць дарослыя.**

**А пачынаецца гаворка І. Карэнды з дзеткамі з запрашэння пазнаёміцца з кнігай, пастарацца адгадаць кожную загадку:**

*На загадкі ёсць адгадкі,*
*Бо загадкі — не падман.*
*Адгадаеш папарадку*
*З гэтай кніжкі ўсе загадкі —*
*Я куплю табе банан.*

**Можна ўявіць, як пасля ўсяго твары “чамучак” засвецяцца радасцю. Каму не хочацца атрымаць падарунак. Дый, вядома, не церпіцца хутчэй з загадкамі пазнаёміцца. Шчодры ж аўтар не толькі банан абяцае ў якасці ўзнагароды:**

*А з’ясі банан са смакам,*
*Сырадою вып’еш збан,*
*Пачастую мармеладам*
*Ды заморскім шакаладам...*

**І просіць быць уважлівым:**

*Калі маеш вольны час,*
*Час на роздум, на здагадкі, —*
*Слухай першую загадку*
*І давай хутчэй адказ.*

**Першая ж загадка не такая і складаная: “Дзіўны, смешны карагод // Бачыў я пад Новы год: // Карагод вадзілі мухі — // Дзеткі маці-завірухі”. А хто не здагадаецца, што гэта — сняжынкі, можа зазірнуць на апошнюю старонку кніжкі, дзе змешчаны адгадкі.Праўда, ёсць і больш “цяжкія” загадкі. Хоць бы гэтая: “Коціцца, коціцца з боку на бок // Сіні клубок, а на ім — паясок. // Той, хто загадку маю адгадае, // Гэты клубок у руках патрымае”. Не кожны здагадаецца, што маецца на ўвазе мячык. Але ж загадкі для таго і пішуцца, каб актывізаваць мысленне хлопчыкаў і дзяўчынак, спрыяць развіццю іх фантазіі.**

**Разгадванне ж — таксама праца. Таму і стаміцца можна. Разумеючы гэта, І. Карэнда ў сярэдзіне кнігі, пасля васемнаццатай загадкі, прапануе дзеткам адпачыць:**

*Мабыць, ты стаміўся крышку?*
*Калі так, — адсунь убок*
*Недачытаную кніжку,*
*Выпі свой маркоўны сок.*

**А яшчэ можна пагуляць, а пасля...**

*А як скончыш свае гулі,*
*Да мяне зноў завітай.*
*Будзем зноў чытаць загадкі*
*І шукаць на іх адгадкі.*

**І ў другой частцы кніжкі маленькіх чакае нямала адкрыццяў. Асобныя з загадак напісаны да таго дасціпна, што не можаш не нарадавацца аўтарскаму майстэрству, уменню І. Карэнды пісаць для дзяцей так, як для дарослых, але яшчэ лепш. Як гэтая:**

*Беленькія гномікі*
*Жывуць у чорных доміках.*
*На сонцы безупынку*
*Старанна грэюць спінкі.*

**А гаворка ідзе пра сланечнік.**

**Завяршаецца кніжка таксама зваротам да чытача. Гэтым разам паэт дае дзецям абяцаныя дарункі:**

*А ў дадатак — апельсіны,*
*Кока-кола, мандарыны,*
*Тры кіло цукерак “Мішка”*
*Прэзентуе аўтар кніжкі.*

**Міхась ГЕНЬКА**

## КРЫТЫКА

# Расстанне з векам

*Маім голасам*
*ты сказала.*
**Ян Чыквін**

Час на мяжы стагоддзяў выклікае да сябе крыху містычныя адносіны. Усё, што ў ім дзеецца, набывае шматзначнасць: момант выніковасці і прадказальнасць. Такі ж водбліск мае на сабе і кніга польскай паэзіі па-беларуску “Лісце срэбнай таполі. З польскай лірыкі XX ст. Выбраў і пераклаў Ян Чыквін”. Вельмі значны падзагаловак: “З... лірыкі XX ст.” настройвае чытача на роздум пра людскія справы гэтага перыяду гісторыі. А ён аб’ядноўвае дзве сусветныя вайны, Кастрычніцкую рэвалюцыю, савецкі і наш час.

У кнігу ўвайшлі пяцьдзесят чатыры майстры мастацкага слова (адразу ўзнікае асацыяцыя з вядомым аўтабіяграфічным зборнікам “Пяцьдзесят чатыры дарогі”, Мінск, 1963). Парадак чарговасці — у адпаведнасці з датамі нараджэння. Сам паэт, перакладчык і ўкладальнік Ян Чыквін выступае ў ролі стваральніка абагуленага вобраза чалавека канца XX стагоддзя, які на развітанні з векам, перачытваючы польскую паэзію, абраў для сябе ў ёй блізкае, роднаснае. Узнікае нібыта новае лірычнае “я”, сумоўны вобраз аўтара ўсіх вершаў, перакаваных беларускай мовай.

Мастацкі прыём, скарыстаны тут укладальнікам-перакладчыкам, здаецца вельмі ж сімптаматычным для нашых дзён і падзей. Яшчэ свежы ў памяці час, калі пануючай была ідэалагічная сістэма аб’ектывісцкай акцэнтацыі. Падпарадкаванасць асобы грамадскім мэтам здавалася непарушальнай арыентацыяй. І вось жа менавіта яна стала парушанай і скампраметаванай глабальнымі дэструктыўнымі праявамі. Таму зусім натуральна, што сёння чалавек (а не дзіўная сінтэтычная істота “сацыялізм з чалавечым тварам”) становіцца галоўным прадметам увагі літаратуры, той умоўнай кропкай маральнага апірышча, на якой мастакі слова імкнуцца пабудаваць свой сусвет.

Кніжка Яна Чыквіна стала свайго роду рэзанансам пульсу нашай эпохі, увасобіла “форму часу”. Зборнік перакладаў, відаць, адбыўся не столькі як інфармацыя пра дыялектыку польскай паэзіі на працягу стагоддзя, а перад усім іншым — як найцікавейшая з’ява **беларускай** паэзіі.

Ды і, трэба дадаць, мае адметнасці паэтычнага стылю самога паэта-перакладчыка. Ён прадставіў мастакоў, не азіраючыся на іх ідэалагічна-палітычную пазіцыю або ступень папулярнасці, нават абраныя творы мажліва аспрэчваць у якасці найбольш тыповых для кожнага пісьменніка. Напрыклад, імёны Юльяна Тувіма, Яраслава Івашкевіча, Баляслава Лесьмяна, Леапольда Стафа, Уладыслава Барнеўскага, Юльяна Пшыбася, Тадэвуша Ружэвіча суседнічаюць з менш вядомымі Януша Ст. Пасерба, Анджэя Бурсы, Рафала Ваячака. Гэтаксама Я. Івашкевіч прадстаўлены толькі вершам “Да Расіі”, У. Бранеўскі — “Рабочы з Радома” і т. д., што падаецца не зусім апраўданым, калі гаварыць пра раскрыццё эстэтычнай своеасаблівасці кожнага з іх. Ян Чыквін імкнуўся выявіць іншае. Звернем увагу: гады нараджэння і смерці пісьменнікаў сумоўна фармуюць ва ўяўленні чытача такое збіральнае “ego”, умоўную персону, што ўступіла ў бягучае стагоддзе ў 33-гадовым узросце (першым прадстаўлены Баляслаў Лесьман, 1877—...) і на працягу свайго сталага жыцця (апошнім — Ян Рыбовіч, ...—1990) спасцігала складанасці быцця. Абагульненая лірычная асоба развіталася з эмпірычнай рэальнасцю якраз на парозе новага веку, не ўратаваўшы сусвет, пакінуўшы людзям толькі свае назіранні, роздум, вызначыўшы стан маральнага напружання і вагання перад адказным, рашаючым крокам:

***...амаль усе стаяць***
***на тонкай граніцы***
***між шаленствам і геніяльнасцю.***
***Хопіць зрабіць адзін крок наперад.***
*(“Край перавернуты”)*

Што ж увасабляе сабой духоўны свет гэтага лірычнага героя, якія яго адносіны да знешніх падзей, прыродных, грамадскіх, палітычных, як рэагуе і ўплывае на іх, і нарэшце, як змяняецца ён у гэтым зменлівым сусвеце?

Пазначаныя аспекты зместу ўнутранага свету амаль усебакова прадстаўлены ў паэзіі зборніка, хоць яны і не выдзелены графічна, а як у музычным творы перацякаюць адзін у другі, развіваюцца, звязаныя агульнымі дыялектычна зменлівымі настроямі. Таму кніга толькі і можа быць зразумета як суцэльная з’ява, праявіць сваё найбольшае эмацыянальнае ўздзеянне пры паслядоўным чытанні, нібы “разгортванні” паэтычнай прасторы. У ёй XX стагоддзе прадстае нам як серыя ўражанняў-успамінаў, “як карцінная галерэя, якую аглядаў даўно-даўным” (Марак Ваўжкевіч “Боль”). Збіральны яе лірычны герой — моцных, канцэнтраваных пачуццяў, жыве напружаным інтэлектуальным жыццём, у думках сваіх адказны за ўсё і ўся на Зямлі і не толькі. Пачувае сябе адзінкавым у цэлым космасе, і ўсё, з чым судакранаецца, экстраардынарным. Ён не барацьбіт, не палітык-змагар, успрыманне і ўздзеянне яго на сусвет перанесена ў сферу маральна-этычную, і ў гэтым плане можна гаварыць пра вынікі яго “пераўтваральнай” уплывовасці.

У той спрэсаванай паэтычнай прасторы вершаў на роўных адгукаецца герою ў яго перажываннях жывёла (Б. Лесьмян “Конь”) і нехта “Ты”, якога пачынаюць “шукаць... досвіткам і ў трывозе” і які, аказваецца, “праз усё жыццё ўсё следам крочыў за мною” (Л. Стаф “Я выйшаў шукаць...”). Гэтая тэма высокага душэўнага яднання ўзнікае на першых жа старонках кнігі і вар’іруецца ў рамантычнай абагуленасці розных праяў: імкненні растаць і ўвасобіцца “ў тым, што бясконцае, — Ім” (Марыя Паўлікоўска-Яснажэўска “Апусціце мяне ў Яго”), у пачуцці праяў вечнасці, нязменным імкненні мастацтва спасцігнуць жаноцка-генетычны пачатак жыцця — “жанчын, якія ткуць” (К. Вяжынскі “Жанчыны, якія ткуць”). І як вышэйшая ступень абсалютнай прыналежнасці да існасці сусвету — каханне”.

Затым узнікае новая хваля спазнання — шматзначнай і лакалізаванай у часе эмпірычнай рэальнасці. Тут фармуецца мноства ўзаемапранікаючых матываў, яны паўтараюцца, іх сэнсавыя змены — як напамін пра рух часу, пазначаны ў лічбах гадоў (датах нараджэння паэтаў). Умоўна гэтыя матывы можна было б назваць “Прырода і чалавек”, “Бог і Боскі пачатак быцця”, “Духоўны і матэрыяльны бакі жыцця”, “Паэзія сучасная і вечная, дачыненні з паэтамі былога”, “Айчына”, “Польшча і менталітэт паляка”, “Польшча — Расія”, “Сацыяльныя, палітычныя праблемы”, “Фашызм”, “Дакор сучаснікам і вера ў патэнцыяльны духоўны ўзлёт чалавека” і т. д. Звяртае на сябе ўвагу адсутнасць традыцыйнай нам тэмы сацыяльнай няроўнасці, імперыялістычнай вайны, рэвалюцыі, эканамічных пераўтварэнняў у грамадстве — усяго гэтага як бы не ведала польская лірыка XX стагоддзя, нібыта ніхто з паэтаў, прадстаўленых у кнізе, не перажыў падзей другой сусветнай вайны. Апошняя тэма прысутнічае як успамін, разважанні над лёсам адышоўшага пакалення. Таму можна сказаць, што ў кнізе адлюстраваны духоўны вопыт сённяшняга сярэднестарэйшага пакалення, праз яго эмацыянальныя “назапашванні” бачацца і людзі былых эпох (XIX стагоддзе), і акрэсліваюцца сучасныя маладыя, пераемнікі “аўтарскага” часу.

Разгортванне ў шматлікіх напрамках гэтага комплексу праблем пачынаецца адразу ж пасля эмацыянальнага адзінства вершаў, падобных да прэлюдыі: “Конь” Б. Лесьмяна і “Мілаванне” К. Вяжынскага. Наступныя “Вясна хамаў” Юліяна Тувіма, “Да Расіі” Яраслава Івашкевіча, “Рабочы з Радома” Уладыслава Бранеўскага, як і “Людзі на свеце” Беаты Абертынскай — энергічныя мажорныя замалёўкі, моцныя паўнатой жыццёвай сілы, шчырым жаданнем і мажлівасцю разабрацца ў складаных пытаннях жыцця, да поўнай яснасці зразумець усё.

***Аб чым я сказаць павінен табе,***
***Расія, ці тое, што***
***Пушкін — паэт узлётаў нябесных?***
***Ці аб тым, што пагардаю сцёбаў***
***мяне Дастаеўскі?..***
***Ці сказаць, што я ненавіджу цябе?***
***Ці прызнацца,***
***што ты мною каханая? —***

так упершыню становіцца прадметам для роздумаў шматзначная “Расія”. Далей у вершах Рафала Ваячака “Polonia Restituta”, Адама Загаеўскага “Расія ўваходзіць у Польшчу” (прысвечаны Іосіфу Бродскаму) адбываецца разам з ускладненнем мастацкай формы і сэнсавае ўскладненне праблемы ў свядомасці пасляваеннага пакалення (абодва паэты нарадзіліся ў 1945-м). Адраджэнне Польшчы пераплятаецца з выбуховай абуранасцю “прысутнасці” Расіі “ў існаванні”, “у думках”, “у вершах” (“Расія ўваходзіць у Польшчу”). У другіх вершах пазначанага вышэй эмацыянальнага накірунку (Ю. Тувім — Б. Абертынска) няпросталінейнасць асвятлення тэм становіцца ўсё больш моцнай. Узнёслае захапленне “людзьмі на свеце” (“Ах, што за збожжа!... Як бы хто сонца сыпаў лапатай...”) суправаджаецца антанімічным катрэнам “О, божая цярплівасць! Пашкадуй нас! Гэту, напраўду, галоту!”; даверлівыя словы пра магутнасць паэзіі (падобную да жазла Маісея і павінную гаварыць пра ўсё станоўчае) пераплятаюцца з бяздоннасцю гора невядомага рабочага па страчаным сыночку. Здаецца, невыпадкова, што гэты псіхалагічны пасаж распачаты “Вясной хамаў” Ю. Тувіма. Парадаксальнасць быцця тут літаральна ўрываецца ў радкі і найперш парушае гармонію Б. Лесьмяна — К. Вяжынскага ўжо ўвядзеннем зніжанага, з сацыяльнай падсветкай “хам”, і, па-другое, усёй сістэмай ідэйна-мастацкіх параўнанняў.

Бадзёрае захапленне Ю. Тувіма раскаванай моцай прыроды вясновую парой выклікае, аднак, унутраную насцярожанасць з-за бунтарскай антырэлігійнасці сваіх паралеляў (дзень “узмацняў чортавыя звадкі”, “радасць... у неба брукам”, “бунтам у светлыя высі”, “па даху свету страляе каналія”, “свабода хамская ў нябёсы валіць”) і зусім ужо супраціўленне — акрыленай радасцю ваяўнічасці ў вуснах славяніна, якой поўніцца верш:

***І ўспыхнула вясна — ашаламляльна!***
***Нібы вайна. І ў кватэры — з грукам.***

Метафарычнасць малюнка дапаўняецца і развіваецца сэнсавай арыентацыяй параўнанняў “раптоўныя і надзвычайныя дадаткі”, “крыклівая армія”, “гром гармат”.

Тэма вайны яшчэ і яшчэ ўзнікае на старонках выдання. Адносіны да тых падзей выказаны пэўна праз непарыўную маральную эстафету пакаленняў у вершы Станіслава Рышарда Дабравольскага “На Пэр Ляшэз”:

***Побач злучаных з Парыжам***
***касцей камунараў,***
***побач зветранага плашча паўстанца***
***Валерыя Врублеўскага...***
***святыя астанкі маёй маці...***
***Бледныя рукі з мармуру цягнуцца ў неба***
***— чаго?..***
***Не ведаю.***
***Але ведаю, што заўтра — хутчэй смерць,***
***чымсьці ганьба другі раз.***

Напрыканцы кнігі пад пяром паэта Рышарда Крыніцкага ізноў узнікае гэтая тэма, каб даведзенай быць да поўнай яснасці, каб прамоўлена было тое слова, якога, здаецца, унутрана жахаючыся, пазбягаў перакладчык-укладальнік — фашызм. Паэт-аўтар звяртаецца нават да натуралістычных выяў (“распырсканы мозг раздаўленай гусеніцай танка...”), каб падкрэсліць рэзкую адмоўнасць з’явы, жудасць пагрозы яе:

***Фашысты зноў мяняюць кашулі.***
***Чорныя кашулі на светлыя гадзіны,***
***на белыя плямы ў закрытых газетах...***

Не менш цікава прасачыць развіццё процілеглага — бо ратавальнага — прадмета паэтычных роздумаў: Бога. Калі на пачатку кнігі гэта — пошукі і шчасце спасціжэння адзінства з Ім (ужо згаданы творы “Я выйшаў шукаць...”), то пазней такія ж пакутлівыя перажыванні звязваюцца са страхам “мукі адрачыся” (Павел Гайнтш, нар. 1924, “Шукаю цябе, Божа”), “табе згаснуць” (Януш Ст. Пасерб, 1929—..., “Псалом”). У вершах паэтаў, народжаных у 1930-я гады, Ежы Гарасымовіча “Лэмкаўская элегія”, “Песня XXV”, Аліцыі Патэй Грабоўскай “Ад злога”, Эдварда Стахуры “Confiteon” паслядоўна прадстаўлена разбурэнне рэлігійнасці ў соцыуме і моцная вера ў душы асобнага чалавека:

***І на дне сэрца майго***
***Заплаканы твар іконы***
*(“Песня XXV”)*

***Босыя на вуліцах свету***
***Голыя на вуліцах свету***
***Галодныя на вуліцах свету***
***мая віна***
***мая віна***
***мая вялікая віна***
*(“Confiteon”)*

Завяршаецца гэтае мінорнае гучанне нотаю адчаю, разуменнем поўнай немагчымасці дасягнуць вышыні Усявышняга — у вершы Збігнева Яжыны з выразнай назвай “Блажэны”. Ад імя гэтага персанажа робіцца супастаўленне “таго, хто стварыў” з “творам” і гучыць поўная горычы выснова:

***Прыгажосць, паўтораная,***
***прыносіць невымоўны боль***
***сваім пустым падабенствам...***
***Святло такое можна ўбачыць***
***толькі раз — і толькі***
***ў такую форму яго ўнаявіць.***
***А потым ужо навокал цемра***
***і зямлі мілаванне.***

Вышыня духоўнага ідэалу падкрэслена жахлівай неадпаведнасцю ёй чалавечага жыцця. Але ж тут няма абсалютнай антыноміі, бо само веданне пра духоўны ідэал і нязменнае супастаўленне з ім як эталонам ужо пэўным чынам абнадзейвае. Гэта значыць, скразны лірычны герой усіх вершаў, як і з’яднаны ўмоўны вобраз іх Аўтара, што так блізкі паэту-перакладчыку, нязменна ўтрымлівае ў глыбіні сваіх пачуццяў агонь альтруізму, любові, надзеі. І нясе яго праз усе адчаі, страты, жахі ўласнага лёсу,

Андрэй ФЕДАРЭНКА

# Гульба святых



АПАВЯДАННЕ

Сержыкаў, напакаваўшы сумкі, цягнецца да яго ў горад. Так што чапаць Сержыка не пажадана нікому: ні дырэктару, ні завучу, і можна толькі ўявіць, што ён за падарунак, калі сам Гарасёў трэці год не можа выцягнуць яго з пятага класа! Адзіны ў сям'і сынок, позняе дзіця, з ім нянчацца і разбэшчваюць яго, як толькі можна. Расказвалі — ды сама яго маці і расказвала, — як тры сястры выстройваліся адна за адной каля калыскі маленькага Сержыка і дзьмулі яму па чарзе ў голы пульхны задок; ілюстрацыя да раблеўскага Гарганцюа! Яму дазволена ўсё. Кожнае яго жаданне выконваецца без прамаруды. Захацеў раз Сержык мапеда — калі ласка, назаўтра атрымоўвай, ды не звычайную "Рыгу", а "Верхавіну", дзве хуткасці, амаль матацыкл. Зажадаў стрэльбу — на, сынок, бацькаву аднастволачку, "ды глядзі ж, беражыся, вочкі не павыбівай" (сабе, канечне, вочкі, не людзям). Канькі-"канадкі", клюшка за шэсць з нечым, шлем, шчыткі, накаленнікі — во да чаго зайздрасць сапраўдная, да амуніцыі хакейнай, а не да "Верхавіны", нават і не да стрэльбы... Раз захварэў Сержык, зажадалася яму, як многім хворым, што часта самі не ведаюць, чаго хочуць, — шахматаў. Лета, сенакос, бацька кідае ўсю работу, едзе на цэлы дзень у горад, прывозіць шахматы. Ды не простыя, не нашы лакаваныя дзеравяшкі за тры шэсцьдзесят — касцяныя, з пазалочанай інкрустацыяй, у скрыначцы, абабітай усярэдзіне карычневым аксамітам. На, сынку, папраўляйся! Сынку пагуляў сам з сабою ў Чапаева, пстрычкамі збіваючы пешкі, адламаў ферзю галаву і на тым скончылася.

Я люблю яго. Мы сябры. З ім лёгка, цікава і пляваць на тое, што ён двоечнік. Затое ён умее, як Бядулеў Салавей, размаўляць рознымі галасамі, мужчынскімі і жаночымі. Да ўсяго ж у нас з ім аднолькавае адчуванне жыцця. Нам мала яго, гэтага, калі шчыра, даволі-такі нудненькага рэальнага вясковага жыцця, мала простага сузірання гэтых хат, людзей, настаўнікаў, школы; нам хочацца самім тварыць яго, хай сабе толькі ў марах, затое па-свойму.

Фантазіі ў нас бываюць смешныя, дасціпныя, бываюць банальныя і, вядома ж, далёка не заўсёды бяскрыўдныя. Мы выдумляем-фантазіруем, перабіваючы адзін аднаго, устаўляючы розныя падрабязнасці, на тэму Сержыкавага суседа — дзядзькі Міколы Піцерскага. Напрыклад, як ён мог служыць у войску? Прымітыўны, непісьменны, акрамя таго, дылда пад два метры ростам — усю форму, ад ботаў да пілоткі, яму шылі па спецзаказе, мы самі бачылі дакументы, калі неяк залезлі да яго ў пограб і знайшлі кіпу пажоўклых лісткоў з выцвілымі, пад капірку напісанымі параметрамі. Чаму так не па-беларуску Піцерскі? — неяк з жонкаю паехалі яны ў горад Ленінград (гэта не прыдумкі, а праўда), пачалі спускацца ў метро. Жонцы, вясковай цёмнай бабе, якая дасюль не была нават у райцэнтры, зрабілася блага — яшчэ б, нейкі страшны чорт жывую апускае ў апраметную! Нема яна загаласіла і, задзіраючы ногі, пачала пералазіць на суседні эскалатар, які падымаўся ўверх, які мог ратаваць яе, вынесці з гэтага пекла... Мікола хапаў за спадніцу, сцягваў назад... Дарэчы, хутка пасля паездкі яна памерла, цалкам магчыма, што і ад стрэсу, а Мікола стаў Піцерскім. Дзякуючы Сержыку і папулярнаму тады "джэнцельменскаму" фільму.

А то мы ўкладваем майго класнага кіраўніка Кацмана, ціхмянага сарамлівага яўрэйчыка, які чамусьці баіцца жанчын, у адзін ложак з Кацяй, маладой і "ранняй" настаўніцай нямецкай мовы; цымус яшчэ і ў тым, што ў нашай інтэрпрэтацыі яны нават у ложку размаўляюць на "вы".

Я: "Повернитесь, пожалуйста, на бочёк, дорогая Катюшенька... Так мне будет удобнее..." Сержык (Каціным голасам): "Я вам чьто, гимнастка? Может, ещё мостик прикажете сделать?!" У мяне аж дрыжыкі бягуць па спіне, бо не толькі голас, і твар у яго робіцца падобным на Кацін, і міжволі мільгане думка: ды адкуль гэта ў цябе, двоечніка, невука, які ніводнай кніжкі ў жыцці не прачытаў?! Ды ці не прыдурваешся ты, пад прасцячка ламаючыся?! Каб рабіць усё, што хочаш?!

Мы з Сержыкам залезлі ў лазовы куст, што расце проста з лёду, адразу за варотамі хакейнай пляцоўкі. Куст вялізны, памяшчаецца ў ім чалавек дваццаць, і можна сядзець на галінах, як на лаўках. Іншым часам тут наша раздзявальня. Цяпер мы пакурваем тут, ганяем "цыганачку"... Ах, тая першая ранішняя зацяжка! Той шум у вушах, салодкі транс, раптоўнае абвастрэнне зроку, слыху, нюху!.. Гэта пазней, пазней забухаюць кашлем лёгкія, пазней прыйдзе расплата — задышкаю, арытміяй... А пакуль што смялей! — давай, зацягвайся, каўтай дым, здароўя ж не мерана, скура гладзенькая, зубкі белыя, пальцы нікацінам не смярдзяць...

Сержык робіць доўгія зацяжкі і, выпускаючы дым, заплюшчваецца. Я падганяю: ды расказвай хутчэй! Пакуль я ўчора ўрокі рабіў, ён не спаў у шапку. Госці пачалі з'язджацца яшчэ з вечара. Да Гермачыхі-штунды прыехаў сын, імяніннік Мікола, таксама штунда (так у нас завуць баптыстаў), не адзін, а з дзеўкаю, нават з дзвюма дзеўкамі! Абедзве гарадскія, бялявенькія, абедзве, калі Сержыка паслухаць, у Бога веруюць. Мікола Гермачышын іх у малітоўным доме недзе і знайшоў.

Сержык расказвае ў ролях, разыгрывае цэлы спектакль. Гэта трэба чуць і бачыць. Канечне, ён яшчэ ўчора ўсё падгледзеў, усё выведаў.

— ...Коля на гітары іграе, дзеўкі параздзяваліся і таньчаць голыя, а Гермачыха на паліку сядзіць, у ладкі пляскае... Фу-у-у! — шумна выдыхае ён дым з рота.

Трэба ж! Такі абыякавы голас, такая нявіннасць у сумленных вачах! Нават і ведаючы яго, як аблупленага, міжволі засумняваешся — а мо праўда?

— Дык а што ён ім іграў?

І на гэта ў Сержыка ёсць адказ. Словы, і нават мелодыю ўдалося яму запомніць. Ён перабірае, як па струнах, пальцамі па крысе новенькага свайго пальта і спявае рыхтык голасам Кабзона, на матыў колішніх "бамаўскіх" шлягераў:

***Верце у Бога***
***Ісуса Хрыста,***
***І спамінайце***
***Ліхія дзела!***

— Ды не брашы ты!

— Бля буду, — клянецца Сержык. — Яны, ведаеш, як усе ў Бога вераць? Ты што!

Я ўздыхаю.

— Вось каб паглядзець...

— На дзевак голых? Шчасце такое!

Сержык сплёўвае. Канечне! Тры сястры дома, на вачах, хочаш не хочаш усяго нагледзішся...

Аднак хутка першы рэйс аўтобуса. Варушыцца трэба. А то засядзеліся тут, закурыліся — так і галоўнае, чаго добрага, прапусціш.

Хуценька ідзём да клуба. Мароз, сонца, ружовы снег, які скрып-скрып пад чаравікамі. Здорава! Проста нейкая дурная радасць у душы. А на прыпынку ўжо людзі. І два Міколы-імяніннікі сярод іх. Адзін — Піцерскі, двухметровая тычка, у новым кажусе, у хромавых ботах, якія блішчаць на сонцы халявамі; другі — гадоў пад шэсцьдзесят інвалід па мянушцы Пісталет. Абодва чакаюць гасцей. Піцерскі — свата, якога завуць Сідар (нам напярод, ад аднаго гэтага імені, ужо радасна), Пісталет — сына з горада Варапаева.

— Здароў, дзяды! З празнічком!

Сержык сама ветлівасць. Нават галаву пачціва схіліў, нават да шапкі дакрануўся. Але добра нас усе ведаюць тут. Мікола Піцерскі адварочваецца, не жадаючы не тое што гаварыць, а і пазіраць на нас.

— Сына з Варапаева жджэце? — мядовым голасам пытае Сержык у другога Міколы.

— Якое тваё сабачае дзела, — адказвае Пісталет, — каго я жду?

Значыць, у настроі, раз гэтак кажа. Звычайна замахваецца каменькаю[2] і крычыць на ўсю вуліцу: "Пайшоў на ..., паскуства-гадасць!" Апошнія — самыя любімыя яго словы.

[2] *Кавенькаю; на Мазыршчыне яшчэ чапялу называюць* ***камянёй.***

Скача Пісталецік з каменькаю, прытупвае, узяў ужо, канечне, пару "сотак" на грудзі. Паддзёўка на ім, афіцэрскім рамянём падперазаная. На адной назе валёнак у галёшы, на другой чаравік, падобны на артапедычны. Калі цёзку Піцерскага выгнала ў вышыню, дык гэтага ў шырыню — квадратная такая на неаднолькавых ножках трансфарматарная будка, з якой расце галава, што таксама здаецца квадратнай, бо на ёй салдацкая шапка з апушчанымі вушамі.

Такога "кадра" яшчэ пашукаць. У дзядзькі Міколы Піцерскага, акрамя службы ў войску і паездкі ў Ленінград, нічога больш за душою і няма; пра гэтага ж можна расказваць па гісторыі на кожную літару алфавіта.

А) — стральба кабана. Справа ў тым, што наш Мікола баіцца, калі свіней рэжуць ці колюць (дарма што хлусіць, што ваяваў, нават з пісталета страляў — адсюль мянушка), і заве на такія выпадкі лесніка са стрэльбаю, таксама, дарэчы, Міколу. Пісталетава хата роўненька праз вуліцу насупраць крамы. Аднойчы Мікола-ляснік прамазаў. Куля прабіла кабану лыч і ўляпілася ў магазінныя дзверы. Спрацавала сігналізацыя. Выхадны дзень, раніца, магазіншчыца ў нас з горада, а як у той горад паведаміць? Як туды дазваніцца, калі адзіны тэлефон стаіць у гэтай самай краме? Словам, сірэна выла больш за суткі, пакуль не прыехала ў панядзелак і не спыніла гэты кашмар прадаўшчыца... А заманліва, праўда, гэтую лінію развіць? Як з таго часу сігналізацыя пашкодзілася і пачала спрацоўваць самавольна, і да яе так прывыклі, што калі аднойчы ўночы да крамы ціха падруліла аўто з фургонам...

Б) — халяўная выпіўка. Летні вечар, каля крамы змораныя за дзень мужчынкі п'юць "Праменнае" нуль восем. Паселі ў радок, як ластаўкі на правадах, на жэрдках. Закусваюць "вахлямі". Пісталет, глытаючы слінкі, скача побач — не завуць яго! Тады прыдумваецца наступнае. Мікола падчыкільгіквае да дзядзькі Агуста, худзюшчага і з чорным ад жыцця і ад п'янкі тварам, і пачынае выціраць яму далонью вусны. "То я ваклю еў", — вяла адмахваецца Агуст. — "Я не знаю, што ты еў! Мо ты мел[3] еў! Стой смірна, паскуства ты, гадасць!" Ну, як пасля такога не аддзячыць чалавека? Не наліць "чарніла" паўшклянкі?

В) — як жывога бацьку пахаваў. Рэвізія ў краме (чамусьці з крамаю гісторыі ўсе звязаныя, цяпер толькі заўважаю; нейкія ўсе "крамныя", ці "крамольныя"?..). Рэвізія рэвізіяю, а піць жа трэба! Пісталет бярэ сваю Аксеню, якой яшчэ раней паленам адбіў мазгі і яна развучылася гаварыць, ідуць у магазін, так і так, бацька (на другім канцы вёскі жывы) памёр. Ну, раз так... Колькі будзеце браць? Скрынку "чарніла". Узяліся з Аксеняю з двух бакоў, перанеслі праз вуліцу. Да канца рэвізіі хапіла. А стары бацька перажыў сына гадоў на дваццаць.

Г) — як бульбу капаў ("Аксеня, пасунь каша, паскуства ты, гадасць!" Д) — як тавар пасвіў, на лісапеце, з будзільнікам у кішэні. Ж)... З)... Каму не смешна ці нецікава ўсё гэта, раю паслухаць у Сержыкавым выкананні... вось толькі, праўда, не скора такое стане магчымым. Сядзіць недзе ў "суворай" аршанскай турме Салавей наш, матчын сынок наш, анёльчык, якому ў задніцу дзьмухалі, тэрмін "цягне", трэцяя ходка — і ўсё па дурасці, усё ад разбэшчанасці, інфантыльнасці, ад таго, культывуемага некалі намі стаўлення да жыцця як да нечага несапраўднага, несур'ёзнага!.. Першы раз па п'яні ўтапіў Сержык дзяржаўную машыну ў рэчцы — год з паловай. Другі — недзе ў Калінкавічах (Гарасёў па блаце зрабіў яму там кватэру) пабіўся з нейкім дзедам, пенсіянерам, на трыццаць тры савецкія рублі[4], вызначыць суд, "знёс" яму ўстаўных зубоў — два гады плюс кампенсацыя. І вось цяпер трэці раз, за штосьці, здаецца, зноў з нейкім пенсіянерам звязанае — можа, і з тым самым.

[3] *Крэйду.*

[4] *Паставіць звычайны жалезны зуб каштавала тады штосьці каля рубля.*

Аднак Пісталета забылі. Е) — вось хоць бы і гэты сын з Варапаева. Ніколі ніхто яго ў вочы не бачыў, як і ніхто не чуў, дзе гэты таямнічы Варапаеў?.. У тыя далёкія, дарагія гады я і падумаць не мог, што сам некалі буду мець да гэтага горада дачыненне. У 80-ыя з літсуполкаю "Тутэйшыя" выправіліся цягніком у Друсу, каб адтуль на лодках плыць у Дзвінск, пратэставаць супраць будаўніцтва ГРЭС, ці што, не помню ("хто без чаўна, хто на чаўне мы шпацыруем па Дзвіне"), і вось уночы, калі рабілі перасадку на глухой, пустой і цёмнай станцыі, раптам кінулася ў вочы — Варапаева!..

Аднак да-а-алёка яшчэ да начной перасадкі і да шпацыру па Дзвіне. Пакуль і без таго цікава. Вунь аўтобус ужо выплывае з-за павароту. Тармазнуў, праехаў юзам па слізкай шашы. Расчыніліся дзверы — і вось нам першая ўзнагарода за чаканне. З пярэдніх дзвярэй вывальваецца, не выходзіць, не саскоквае, а акурат неяк бокам вывальваецца Міколаў сват дзядзька Сідар. Упаў на калена, падхапіўся і выдаў на ўсю вуліцу наступнае:

— Э-эх, ты, у Госпада Бога душу Ісуса Хрыста краста маць перамаць тваю Прасвятую Багародзіцу... у Пятра і Паўла рогі маць!..

Ашаломленыя, мы з Сержыкам нават не смяёмся. Ну, калі такі зачын, сумна сёння не будзе!

— Сват, а мо не гнявіце ў Бога? — просіць Мікола, азіраючыся.

Яму сорамна за свайго госця перад людзьмі. За гэтыя брыдкія яго словы, за тое, што прыехаў паддаты і з пустымі рукамі. Што боцікі ў яго нячышчаныя, дзіравыя, і ў адзін калашына ўбілася. Што зялёнае пальточка расхлістанае, без гузікаў, шаліка няма, праз расшпіленую брудную кашулю свеціцца худая шыйка... Росту дзядзька Сідар нашага, падлеткавага. І калі сваты пайшлі па вуліцы — Мікола далікатна падтрымліваў Сідара за локаць, вялікі з малым, дык ззаду здавалася, што дзед вядзе дамоў наравістага ўнука.

Астатнія пасажыры прывезлі хоць нейкае адчуванне свята. З гасцінцамі, з тортамі ў руках цэлай працэсіяй расцягнуліся па вуліцы. Апошнім сіратліва клыпае Пісталет. Зноў да яго так і не прыехаў сын з Варапаева. Нічога, будзем старымі гісторыямі жывіцца! Хай сабе клыпае, балазе, яму недалёка, вунь насупраць крамы хата, — ды "квасіць" там са сваёй Аксеняю. А тое, што не пагаворыш з ёю, хай на сябе крыўдуе — не трэба людзей біць паленам па галаве, тым больш жонку.

Бліжэй да абеду пад'ехаў яшчэ аўтобус. Ажыўленне, рух на вуліцы і ў дварах! Напаўняецца вёска людзьмі. Нарэшце, пад вечар, яшчэ навіна, самая важная — музыкаў "пазік" прывёз! Да гэтага часу паспелі ўжо напіцца, наесціся, наспявацца, хто і пакімарыць, набіраючыся сілы перад другім таймам... Самы час пахмяліцца, асвяжыць халоднай вадою рыла — і ў клуб, на танцы!

Мы з Сержыкам пабылі ў мяне, потым у яго. І там, і там сядзелі за сталом і ўсё адно ўмудрыліся застацца амаль галоднымі сярод гэтага банкетавання, гэтага багацця розных смажанняў, тушэнняў, марынадаў, грыбкоў-гуркоў-памідораў... Ну, не лезе дома! — асабліва калі яшчэ госці, ды ў рот пазіраюць... Гэта за вуглом дзе-небудзь, у тых жа карчах на рэчцы, калі гаварыць трэба шэпатам, азіраючыся, піць з рыльца, закусваць якім-небудзь белым ад тлушчу кавалкам гусяціны, што толькі што выслізнуў з рук пад ногі, а ты падбіраеш, абдзьмухваеш — і ў рот, "зубамі яго, зубамі"!

Можна было б і ў карчы, але ж часу шкада. Ужо нават у нашым канцы чутно, як у клубе наладжваюць інструменты, як зумерыць бас-гітара, піліць, нібы скрыпка, сола-гітара, пераліваецца іоніка, бохае барабан-"нажнік" і медна бразгочуць ударныя талеркі.... Вось-вось пачнецца першы этап гульбы; тут свая традыцыйная іерархія. Гадзінаў да дзевяці-дзесяці вечара будуць тупаць-шоргаць свае "падыспані" з "карапетамі" старыя, потым перапынак — пакарміць-папаіць музыкаў — і другая, маладзёва-"культурная" частка, танцы да ўпаду, гэта значыць, да бойкі.

Аднак нам з Сержыкам і на першую, "нямодную" частку трэба паспець кроў з носу. Бяжым ледзь не бягом. У меншай хаце Міколы Пісталета гарыць святло. Ну як тут не спакусіцца, як тут прайсці спакойна? Прабіраемся паўз сцяну да вакна, я з аднаго боку рамы, Сержык з другога прыліпаем насамі да халоднага, заінелага з сярэдзіны халоднай, няпаленай хаты шкла. Сёе-тое можна разгледзець. Аксеня, сухая, сівая і страшная, як смерць, сядзіць адна за сталом. Прыставіла да вуха будзільнік, той

*(Заканчэнне на стар. 12)*

## *Апладысменты — імёнам?*

**Моцарт, Равель, Пракоф'еў і адна з самых яркіх сучасных беларускіх кампазітараў — Галіна Гарэлава. Дырыжор, які здолеў зрабіць сабе імя міжнароднага кшталту, ажыццявіць шэраг творчых праектаў у Расіі, у краінах Прыбалтыкі, у Германіі, Польшчы, Швейцарыі, Італіі, Францыі, Іспаніі, Партугаліі, Галандыі, у Бразіліі, на Кіпры, у Турцыі, Тайландзе, Ганконгу, Кітаі, у Ірландыі ды ЗША, а ў Беларусі з гэтага сезона сумясціў пасаду галоўнага дырыжора Нацыянальнага тэатра оперы з мастацкім кіраўніцтвам Акадэмічнага сімфанічнага аркестра, — маэстра Аляксандр Анісімаў...**

**Публіка ішла "на імёны". На кожнае з іх рэагавала шчодрымі воплескамі. Дзіва што: адкрыццё сезона сталічнай філармоніі — падзея доўгачаканая і ўрачыстая. "Чакалі з нецярплівасцю... Дачакаліся. І музыка адказа вам узаемнасцю", — запэўніў залу нязменны вядучы сімфанічных канцэртаў Уладзімір Шаліхін, якога, дарэчы, таксама віталі гарачымі апладысментамі.**

**Праграма першага ў новым сезоне сімфанічнага вечара, што адбыўся 7 верасня, прайшла, можна сказаць (калі заплюшчыць вочы на ледзь заўважныя прагалы сярод шчыльна запоўненых радоў), з аншлагам.**

**Напачатку — манументальнае стварэнне В. А. Моцарта, вядомае пад назвай "Юпіцер". Гучанне сімфоніі не столькі заражала сонечнай энергіяй сваёй танальнасці (до мажор), колькі заспакойвала "алімпійскай" ураўнаважанасцю.**

**Пасля антракта — "Класічная сімфонія" С. Пракоф'ева. Лёгкая, дасціпная, лаканічная, прынятая з воклічамі "брава!" — што дапамагло забыцца на адчуванне, нібыта ў вялікай, жывой і рознагалосай масе інструментаў далёка не кожны грае чыста...**

**Прэм'ера "Траецкіх фрэсак" Г. Гарэлавай (Канцэрт для дзвюх труб, струннага аркестра і ўдарных, прысвечаны прафесару М. Волкаву) сталася сапраўднай кульмінацыяй вечара і пазначыла ў яго атмасферы своеадметны эмацыйны перапад. Палітаратурнаму вобразная праграмная аснова (незабытае ўражанне ад царкоўнай фрэскі "Анёл, які трубіць", перажытае Г. Гарэлавай у далёкім маленстве). Эфектныя формы кампаноўкі ды развіцця тэматычнага матэрыялу ў кожнай з трох частак цыкла. Прыцягальнасць драматургіі самога інструментальнага ўвасаблення (у дуэце маладых трубачоў Дзмітрыя Макарэвіча ды Яўгена Лятэ нават прасочваліся начаткі тэатральнасці). Кідкая фінальная кропка — покліч, перапынены "на ўзлёце"... І потым авацыя, віншаванні, доўгае расстанне выканаўцаў і аўтара з узрушанай публікай.**

**"Дафніс і Хлоя" (другая сюіта з аднайменнага балета М. Равеля) — такі быў апафеоз канцэрта. І аркестрантаў і дырыжора нібыта падмянілі: гралі не тое што з натхненнем — з азартам, нібы гуляючы на краі апраметнай, агаломшваючы публіку хвалямі дынамічных кантрастаў, віхурай кульмінацый, водарам сакавітых тэмбраў і гармоній. Раз-пораз над гарачым шквалам аркестра лунала сола флейты Валянціна Ціхевіча. Музыка адказала ўзаемнасцю...**

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

*P. S. Праграма гэтага канцэрта, да гонару філармоніі, была забяспечана разгорнутай анатацыяй. Дзве яе старонкі распавядалі пра творчыя набыткі А. Анісімава, трэцяя — пра Г. Гарэлаву і яе новы опус (да слова, інструментальных канцэртаў у яе ўжо восем). На жаль, у звестках пра маэстра дапушчана істотная недакладнасць, з якой вынікае, нібыта А. Анісімаў нязменна ўзначальвае аркестр ДАВТа Беларусі ўжо больш як два дзесяцігоддзі. Аднак быў перыяд, калі з-за асабістых прычын ён пакінуў тэатр і вярнуўся ў Расію, і толькі праз амаль 5 гадоў зноў стаў за пульт нашага опернага.*

**С. Б.**

ЗГАДКІ

# Першы беларускі Эскамільё

Споўнілася сто гадоў з дня нараджэння народнага артыста Беларусі Міхаіла Дзянісава. Паклоннікам яго таленту імпанаваў прыгожы барытон з каларытным тэмбрам, яркі артыстызм спевака, арганічнасць, непаўторнасць кожнага яго опернага вобраза.

Дачка Дзянісава, Ірына, расказвае, што бацька нарадзіўся ў вёсцы Трасцянка Саратаўскай вобласці, але пра яго сям'ю яна мала ведала, бо ў свой час многае было небяспечна ўспамінаць. На захаваных старых здымках быў надпіс: "Фотаздымак Дзянісавых". Няцяжка здагадацца, што фотасправа была ў іх сямейнай. Але ж ні бабуля, ні бацька нічога ёй пра гэта не казалі.

**— У маёй бабулі па лініі бацькі, Зінаіды Андрыянаўны, захаваўся куфэрак з адзеннем яе часу: старадаўнія прыгожыя сукенкі, чаравікі, шалі, — успамінае Ірына Міхайлаўна. — Бабулька была непісьменная, ведала толькі друкаваныя літары, але добра лічыла. Дарэчы, яна мяне выхоўвала, бацькі ж амаль увесь час былі занятыя. Я яе вельмі любіла.**

...Вакальныя здольнасці ў Міхаіла Дзянісава праявіліся рана. У юнацтве ён удзельнічаў у мастацкай самадзейнасці. Паступіў у Саратаўскую абласную кансерваторыю ў клас прафесара Баначыча, у свой час вядомага ў многіх краінах свету саліста маскоўскага Вялікага тэатра. Разам са сваім педагогам у 1928 годзе Міхаіл пераехаў у Беларусь, працягваў вучобу ў А. Баначыча ў Мінскім музычным тэхнікуме.

Яркі артыстычны талент, эмацыянальнасць паказаў Міхаіл Дзянісаў ужо ў першым спектаклі Беларускага тэатра оперы "Кармэн", прэм'ера якога адбылася ў 1933-м. Крытыка адзначала высакароднасць, шчырасць пачуццяў яго Эскамільё да Кармэн, свабоднае дыханне спевака, тонкасць фразіроўкі.

Кожны оперны вобраз М. Дзянісава быў па-свойму цікавы, арыгінальны. Фігара з "Севільскага цырульніка" Д. Расіні вылучаўся сакавітым гумарам, бліскучай дыкцыяй. Каваціна гучала як яркі ўзор вакальнай тэхнікі. У рэцэнзіях Фігара М. Дзянісава адзначаўся як вялікая ўдача спевака.

Яго Рыгалета з аднайменнай оперы Д. Вердзі вабіў глыбінёй, філасофскім пранікненнем у змест, прадуманасцю кожнага жэсту і мізансцэны. Мне давялося бачыць Міхаіла Іванавіча ў гэтай партыі. Запомніўся створаны ім вакальны і сцэнічны вобраз, незвычайны тэмперамент артыста. Розныя музычныя фарбы, пластычнасць, выразнасць заўсёды ярка, таленавіта выяўляліся ў партыях Яга ("Атэла" Д. Вердзі), Скарпіа ("Тоска" Д. Пучыні), Аманасра ("Аіда" Д. Вердзі), Грязнога ("Царская нявеста" М. Рымскага-Корсакава), Жэрмона ("Травіята" Д. Вердзі), Яўгенія Анегіна ў аднайменнай оперы П. Чайкоўскага і шмат іншых.

Ірына Міхайлаўна ўспамінае бацьку як чалавека валявога і заўсёды з гумарам:

**— Доча, доча, усё нармальна, — звычайна гаварыў ён мне. Чалавек вельмі таварыскі, ён меў нямала сяброў. Сябраваў і з партнёрам па сцэне Ісідарам Балоціным. Разам яны любілі пасядзець у рэстаране "Еўропа", які знаходзіўся на плошчы Свабоды. Нярэдка артысты разыгрывалі адзін аднаго, жартавалі. Неяк зазірнулі ў маленькі прыватны магазін, і Ісідар Міхайлавіч гулліва, але сур'ёзным тонам спытаў: "У вас ёсць смажаныя фагоцікі? Калі з'явяцца — патэлефануйце".**

Перад вайной Ірына бабуля паехала да старэйшага сына, які жыў на Паўночным Каўказе, і бацькі мусілі браць дзяўчынку з сабой у тэатр.

**— Я часам спала ў грым-уборнай, — расказвае Ірына. — Калі-нікалі бывала на спектаклях... Так, амаль усю оперу Чайкоўскага "Пікавая дама" ведала на памяць. Памятаю імёны артыстак — цёця Соня, цёця Доня, цёця Рыта, якія ўдзялялі мне шмат увагі, песцілі. Ніколі не забуду, з якім хваляваннем я чакала выхаду бацькі на сцэну ў партыі Эскамільё, а ён так тэмпераментна**



**выскокваў... Дарэчы, мая маці Валянціна Чыслова да вайны была вядомая оперная спявачка. Мела лірычнае сапрана. Яна выконвала невялікія партыі: Фраскіты ў "Кармэн", графіні Чэпрана ў "Рыгалета", Аміны ў "Травіяце". А з 1943 года да глыбокай старасці на працягу сарака гадоў яна працавала ў тэатры памочнікам рэжысёра.**

На першай Дэкадзе беларускага мастацтва ў Маскве (1940 г.) паспяхова была паказана опера нашага кампазітара Анатоля Багатырова "У пушчах Палесся", дзе адну з галоўных партый — Кузьміча выканаў Міхаіл Дзянісаў. Артыст стварыў беларускі нацыянальны характар рабочага, бальшавіка, кіраўніка партызанскага руху на Палессі ў тыле белагвардзейскіх інтэрвентаў, чалавека, які валодае вялікай сілай пераканання. Папулярнай зрабілася ў яго выкананні арыя Кузьміча "Люблю я прыволле шырокіх палёў". Дарэчы, аўтар

УРАЖАННЕ

# Апошняя ноч на радзіме

Атмасфера ночы на сцэне з'яўляецца эфектнейшым сродкам тэатральнага відовішча. А дзеянне новага спектакля Нацыянальнага Рускага тэатра імя Горкага "Ноч у Вальпараіса..." Ф. Люшэра адбываецца якраз у цёмны час сутак.

Вядомы чылійскі паэт, лаўрэат Нобелеўскай прэміі Пабла Няруда, чые вершы калісьці з захапленнем чыталі па абодва бакі "жалезнай заслоны", зноў сустракаецца з намі на новым вітку гісторыі. Яго творчасць паспяхова перажыла фільтрацыю часам. У 1998 годзе, калі ў Чылі пракацілася новая хваля рэпрэсій, швейцарскі драматург Філіп Люшэр звярнуўся да творчасці Няруды. На прыкладзе аднаго дня, дакладней, адной ночы з жыцця паэта ён малюе карціну паўднёва-амерыканскай сучаснасці сярэдзіны XX стагоддзя. Змрочнай чылійскую рэчаіснасць 1949 года назваць цяжка. Ёй падыходзіць больш жорсткія азначэнні. Менавіта *фашысцкая дыктатура* прымушае сусветна вядомага паэта Паблу Няруду бегчы за мяжу. Апошнюю ноч у Чылі ён праводзіць у доме, дзе ніхто не жыве...

Вершы Няруды настолькі зачаравалі стваральнікаў спектакля, што дзеянне пачынаецца зусім не з атмасферы неспакою. Акцёры выходзяць на сцэну з арыстакратычнай годнасцю. Галоўнае, што яны будуць тут рабіць — чытаць вершы.

*Мы смертельно уставшие —*
*От уходов и возвращений—*
*Все же находим радость*
*На самой горькой планете...*

Сярод акцёраў — Аляксей Шадзько. Ён сядае на крэсла ля мікрафона, каб на працягу ўсяго спектакля таленавіта пераўтвараць вершы П. Няруды ў песні. Ягоны Гітарыст — гэта альтэр-эга галоўнага героя спектакля, бо што лепш характарызуе душу паэта, чым яго вершы! Герой А. Шадзько адкрывае спектакль публіцыстычным уступным словам, нагадваючы гледачам аб правах чалавека ( а ў праграмцы рэжысёр А. Міхальцова адзначае, што кім бы ні быў П. Няруда — паслом ці вязнем — ён заўсёды заставаўся змагаром за правы чалавека на годнасць, свабоду, каханне...) Гітарыст задае стылістычны тон дзеянню: песні будуць чаргавацца вершамі, вершы — відарысамі на экране.

Так, па стылёвай пабудове "Ноч у Вальпараіса..." нагадвае творчую вечарыну. У спектаклі выкарыстоўваецца перадусім "вершаваная" біяграфія паэта. А гучанне паэзіі ўзмацняе сцэнаграфія В. Маршака: на сцэне ўсталяваны вялікі белы экран, на якім на імгненне затрымоўваюцца фотаздымкі, кадры кінахронікі, паўднёва-амерыканскія пейзажы.

У доме, дзе ніхто не жыве (сімвал Чылі, дзе пануе палітычная нестабільнасць), Пабла і яго спадарожніца Маргарыта (Валерыя Ліхадзей) спыняюцца толькі на адну ноч. За гэты тэрмін Маргарыце неабходна арганізаваць нелегальныя ўцёкі паэта з Чылі на караблі (Вальпараіса — буйнейшы порт краіны). А Паблу (н.а. РБ Аляксандр Ткачонак) гэту ноч трэба проста ... перажыць. Пранізліва, з надрывам гучыць песня пад акампанемент гітары: развітваецца з радзімай,



ратуючыся ад пагоні, чалавеку з паэтычным складам душы вельмі няпроста. І хаця галоўны герой спектакля мужна хавае свае перажыванні ўнутры, вершаваныя радкі, што лунаюць у прасторы сцэны, крычаць, нібыта параненыя птушкі:

***Над душой, пролившейся в травы,***
***Над тобой смыкаются кроны;***
***Сиротливо синие искры***
***Реют в горьком голосе ливня...***

# Паэту жывецца спакойна, калі ўладарыць жанчына

***Гэты спектакль пастаўлены рэжысёрам, які глыбока адчувае паэзію. Паэзію слова. Паэзію кахання. Паэзію жыцця творчага чалавека. Рэжысёра Антаніну Міхальцову хочацца назваць таленавітай карункачніцай, а яе літаратурна-музычную-драматычную навелу ў адной дзеі "Ноч у Вальпараіса..." - дзівоснымі карункамі. Як цудоўна спляла яна мізансцэны, маналогі, вершы, песні ў непаўторны сцэнічны выраб...***

***Генеральны сакратар Беларускага цэнтра міжнароднага інстытута тэатра (ЮНЕСКА) А. Міхальцова лічыць, што спектакль пра паэта П. Няруду, пастаўлены Рускім тэатрам, паспрыяе ўсталяванню творчых сувязяў паміж беларускай сцэнай і замежнымі тэатрамі.***

**— Як узнікла ідэя спектакля, як ён стварался?**

— Дырэктар Жэнеўскага тэатра Філіп Люшэр, з якім мы сустрэліся летась на фестывалі монаспектакляў у Кіеве, таленавіты драматург. З некалькіх ягоных п'ес, прапанаваных мне для чытання, я выбрала тую, у цэнтры якой — чылійскі паэт Пабла Няруда, яго паэзія. Мне заўсёды хацелася зрабіць паэтычны спектакль, бо паэзію я люблю і разумею. Праўда, у арыгінале п'есы не было вершаў. Але без іх гэты драматургічны тэкст я не ўяўляла.

На спектаклі ў нас сабралася вельмі моцная, творчая каманда. Мне было вельмі прыемна працаваць з актрысамі Эміліяй Пранскутэ, Валерыяй Ліхадзей, народным артыстам РБ Аляксандрам Ткачонкам, вельмі таленавітым чалавекам і галоўнае —

славутага твора “Дрыгва”, пакладзенага ў аснову сюжэта оперы, народны паэт Якуб Колас заўважыў, што “вобраз Кузьміча ў спектаклі прадстаўлены найбольш ярка”. А ў прэсе гэтая партыя М. Дзянісава была названа простай, натуральнай, глыбокай.

Яшчэ ў адной беларускай оперы — “Міхась Падгорны” Я. Цікоцкага, паказанай тады ў Маскве, Міхаіл Дзянісаў стварыў цікавы вобраз Зміткака.

Апанас у оперы “Дзяўчына з Палесся” Я. Цікоцкага ў выкананні артыста нібы нагадваў Кузьміча ў час Вялікай Айчыннай. З вялікім уздымам выконваў Міхаіл Іванавіч галоўную арыю Апанаса “Беларусь мая, маці родная”.

...3-га чэрвеня 1941 года Дзянісавы ўсёй сям’ёй выправіліся адпачываць у Сочы. Калі пачалася вайна, яны даехалі да Масквы. Мінск ужо бамбілі. Менавіта ў той час Міхаіла Іванавіча запрасілі ў Ерэванскі оперны тэатр, адкуль незадоўга да гэтага пайшоў запрошаны ў Маскву вядомы барытон Павел Лісіцыян. Дарэчы, літаральна да 1942 года ўсе спектаклі ў Ерэване ішлі на армянскай мове, і так давялося выконваць артысту адну з першых яго партый на ерэванскай сцэне — Валянціна ў оперы Ш.Гуно “Фаўст”.

У рэпертуары армянскага тэатра былі “Іван Сусанін”, “Кармэн”, “Атэла”, “Севільскі цырульнік”... Але асаблівы поспех выпаў на створаны артыстам вобраз армянскага нацыянальнага героя князя Татулы ў оперы А. Спендзіярава “Алмаст”. Адразу пасля спектакля ў грым-уборную Міхаіла Іванавіча прыйшлі старыя армянкі ў нацыянальным адзенні. Выказалі яму падзяку за прыгожую літаратурную армянскую мову. Поспех быў каласальны! Спевака Дзянісава ў той час у Ерэване ведалі многія.

Званне заслужанага артыста Беларусі ён атрымаў яшчэ да вайны. А ўжо ў 1944-м стаў народным. У свой час вылучыўся як таленавіты педагог. З вучнямі дзяліўся сваім багатым творчым досведам. Добрыя вакальныя дадзеныя атрымаў “у спадчыну” яго сын ад першага шлюбу Леў, капітан другога ранга. У яго таксама барытон. Калісьці спяваў у капэле “Думка”, дый цяпер любіць спевы. У Ірыны Міхайлаўны — лірыка-драматычнае сапрана. Колькі сабе памятае — у школе, універсітэце, дзе вучылася, потым працавала, кандыдат філалагічных навук І. М. Дзянісава, — яна заўсёды спявала, удзельнічала ў мастацкай самадзейнасці. А ўнучка знакамітага спевака Таццяна скончыла Мінскае музычнае вучылішча як піяністка, працавала ў Лідскім музычным вучылішчы, закончыла філалагічны факультэт БДУ. Потым была праца на Беларускім тэлебачанні. Цяпер жыве і працуе ў Маскве, рэжысёрам праграм ТБЦ...



Шкада, што ў нашым оперным цяпер не працуе музей тэатра. І моладзь не можа пазнаёміцца з жыццём і творчасцю славутых беларускіх оперных спевакоў мінулага, такіх, як Міхаіл Іванавіч Дзянісаў. Праз год распачнецца 70-ты оперны сезон. І цяперашнія артысты, і аматары гэтага жанру неабыякавыя да ўчарашняга дня Нацыянальнага тэатра оперы Беларусі. Бо яго сённяшняе жыццё, поспех у гледачоў цяперашніх у многім залежыць ад павагі да лепшых традыцый гісторыі, на якіх варта вучыцца і ўдасканальвацца.

**Вера КРОЗ**

*На здымках: народны артыст Беларусі М. Дзянісаў. 1959 г.; у оперы А. Туранкова “Кветка шчасця” (Андрэй).*

МАНАЛОГІ

# У гаварkіх нянек дзіця без ... пуцёўкі?

Ёсць адна адметнасць у жыцці нашага грамадства: калі аб ім (грамадстве) голасна клапоцяцца, то чакай нечага адваротнага абяцанаму. Ці ж не гэтак?

Тое, што пуцёўка ў дзіцячы аздараўленчы лагер скокне ў цане з 70-90 тысяч рублёў у мінулым годзе да 160-240 тысяч сёлета, нашых загартаваных інфляцыяй людзей, напэўна, не здзівіла. А вось пастанова Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 6 красавіка 2001 года № 479 “Аб арганізацыі летняга аздараўлення дзяцей у 2001 годзе” пра дапамогу ў аплаце пуцёвак у дзіцячыя аздараўленчыя лагеры за кошт сродкаў мясцовых бюджэтаў неяк абнадзеіла. Пагадзіцеся, што 30-35 тысяч рублёў — грошы няхай сабе і невялікія, але для бацькоў усё ж — істотная дапамога ў аплаце сумы, якая застаецца пасля гарантаванай праплаты са сродкаў Фонду сацыяльнай абароны насельніцтва, — 70 тысяч рублёў.

Але гэта яшчэ, на жаль, не ўся арыфметыка. У нашай сталічнай і абласной арганізацыі прафсаюза работнікаў культуры (сюды ўваходзяць і працуючыя ў Дзяржкамдруку, на тэлебачанні і радыё, у спорце і турызме) — як правіла, людзі з самым меншым ці сярэднім заробкам. За рэдкім выняткам можна сцвярджаць, што багатыя з прафсаюзамі не сябруюць.

*За ліпень гэтага года дзяржаўная статыстыка голасна канстатавала, што сярэдні заробак у названых вышэй сферах склаў ажно 130 і больш тысяч рублёў! Уявіце сабе вялікую радасць работнікаў галіны. Гэтая ж статыстыка, праўда, гаворыць і пра тое, што мінімальны спажывецкі бюджэт, які ўлічвае толькі прадукты харчавання і не зважае на іншыя ёмістыя складнікі нашага сямейнага фінансавага жыцця, таксама вагаецца менавіта ў гэтых межах. Толькі з важкай прыпіскай: ён разлічаны на аднаго чалавека. Калі сям’я складаецца з чатырох чалавек, то, натуральна, кожны з двух працуючых бацькоў з улікам непаўналетніх дзетак павінен атрымліваць ужо па 260 тысяч рублёў, пры гэтым, не налічаным заробкам, а, як кажуць, “чыстымі”.*

Сацыяльна-прававы аддзел арганізацыі прафсаюза не прамінуў гэтую “радасць” Дзяржстата і пры азнаямленні з яго методыкай падліку вельмі хутка прыйшоў да высновы, што лічылі і дзялілі папалам грошы, якія атрымлівае міністр і бібліятэкар. Каб было яшчэ больш зразумелым, прывяду прыклады. На 1 ліпеня 2001 года бібліятэкарам было налічана ад 54 да 75, супрацоўнікам музеяў — ад 46 да 85, медсёстрам і трэнерам у спартыўных школах — ад 40 да 111, артыстам — ад 58 да 104, кінамеханікам — ад 27 да 58, карэспандэнтам газет — ад 68 да 110 тысяч рублёў. І таму 130 тысячам многія з тых, хто атрымлівае значна меншыя заробкі, радаваліся б са слязьмі на вачах.

Міжволі прыпамінаецца анекдот пра міжнародныя спаборніцтвы: хто больш выцісне соку са стограмовага лімона. Уявіце сабе шматтысячны стадыён. Выходзіць гэткі кітайскі гарадавы, адной рукою пад воклічы публікі лёгка выціскае на талерачку 90 грамаў соку. Але не тут тое было. Спартсмен з біцэпсамі а-ля Шварцэнегер з такога ж лімона выціскае 98 грамаў. Здавалася б, усё. Ды не. З’яўляецца сціплы хударлявы чалавек “пры гальштуку”, бярэ лімон, лёгка, не напружваючыся, цісне яго, і праз некаторы час сок ужо пераліваецца праз край двухлітровага слоіка. Даведзены да істэрыкі стадыён хоча ведаць героя. Сціплы чалавек уздымае руку і, прымусіўшы прыціхнуць публіку, годна прамаўляе: “Дзяржкамстат РБ” і кладзе на стол амаль некрануты, наліты сокам лімон...

З выкананнем урадавых патрабаванняў у нас усё ў поўным парадку. Мінскі гарадскі выканаўчы камітэт ужо праз два тыдні выдае рашэнне, у якім выдзяляе 95200000 рублёў са сродкаў рэзервнага фонду гарвыканкама і мэтава дзеліць іх паміж раёнамі сталіцы. Мінскі аблвыканкам праз тры тыдні “выпустил в свет” сваё рашэнне, дзе без усялякіх ваганняў рэкамендаваў “руководителям организаций агропромышленного комплекса, а также учреждений и иных организаций, содержащихся за счет средств областного бюджета произвести своим работникам частичную компенсацию расходов по приобретению путёвок в детские оздоровительные лагеря с круглосуточным пребыванием в размере до 35 тысяч рублей на одну путёвку за счет средств, полученных ими от приносящей доходы деятельности. Рекомендовать районным и городским исполнительным комитетам произвести выплату названных компенсаций работникам учреждений и иных организаций, содержащихся за счет средств местных бюджетов”.

30 жніўня на пашыраным пасяджэнні Мінскай арганізацыі прафсаюза работнікаў культуры прысутныя выказаліся, што атрымаць кампенсацыю ў горадзе было амаль што немагчыма з-за таго, што невызваленым прафсаюзным работнікам патрэбна было аббегаць некалькі інстанцый, каб зусім негарантавана атрымаць (чытайце — «не атрымаць») вызначаную такім чынам датацыю. А ў Мінскай вобласці ў дачыненні да сферы культуры рашэнне аблвыканкама было прачытана адпаведна, бо фактаў выплаты датацый не ўстаноўлена.

Мінская арганізацыя прафсаюза, ведаючы пра гэта, звярнулася ў Міністэрства культуры, упраўленне культуры аблвыканкама з мэтай хоць крыху памяняць становішча ў лепшы бок. Упраўленне прамаўчала, а міністэрства не забылася даць адказ: маўляў, калі хто-небудзь звернецца — абавязкова дапаможам...У выніку дапамогу аказвала толькі арганізацыя прафсаюза. Нягледзячы на ўсё меншае паступленне членскіх прафсаюзных адлічэнняў, мы знайшлі магчымасць аказання фінансавай дапамогі ў межах каля 3 мільёнаў рублёў. Гэта крыху дапамагло зняць вастрыню праблемы ў шэрагу раёнаў Мінскай вобласці: Лагойскім, Салігорскім, Капыльскім, Нясвіжскім, Любанскім, гарадскіх і рэспубліканскіх арганізацыях: ТЮГ, УП імя Я.Коласа, універсітэт культуры, Белдзяржфілармонія, Нацыянальная бібліятэка, Дзяржаўны народны хор імя Г.Цітовіча, Дзяржаўны акадэмічны хор, ДМШ № 9, выдавецтва «Юнацтва», газеты «Чырвоная змена», «Советская Белоруссия». Сапраўды выдатна папрацавалі над пытаннямі аздараўлення дзяцей і падлеткаў прафлідэры Мінскага, Лагойскага, Любанскага, Нясвіжскага, Капыльскага райкамаў, Барысаўскага, Маладзечанскага, Салігорскага і Жодзінскага гаркомаў прафсаюза, пярвічных прафсаюзнах арганізацый Унітарнага прадпрыемства імя Я. Коласа, Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі, кінастудыі “Беларусьфільм”, Фабрыкі каляровага друку, Нацыянальнага акадэмічнага тэатра оперы, Беларускага Дома друку, Беларускага дзяржаўнага універсітэта культуры.

Хоць і звярнуліся мы па дапамогу ў Федэрацыю прафсаюзаў Беларускую і Рэспубліканскі камітэт прафсаюза работнікаў культуры, але Рэспубліканскі камітэт выдзеліў 100 тысяч рублёў, што, вядома, не паўплывала на агульную карціну аздараўлення дзетак сяброў прафсаюза, а Федэрацыя прафсаюзаў дала, прабачце, не адказ, а “адлуп”, напісаўшы, што “на эти цели денежные средства не предусмотрены”. А на якія мэты іх прадугледжваць, калі аздараўленне дзяцей, сацыяльна-прававая абарона інтарэсаў сяброў прафсаюза — наша найпершая задача? Ці не напамінае гэта сітуацыю з гульнёю “ў адныя вароты”. Прафсаюзныя адлічэнні дзесяцігоддзямі асядаюць на разліковых рахунках. У іншых галінах гаспадаркі сітуацыя крыху лепшая (прадпрыемствы ўсё ж маюць свае летнікі). А што рабіць урачам, настаўнікам, артыстам і бібліятэкарам? Пуцёўкі для іх дзяцей не сталі таннейшымі.

Дасць Бог год — дасць і лета. І вельмі не хацелася б, каб сёлетняя сітуацыя з летнім аздараўленнем дзяцей і падлеткаў паўтарылася.

**Уладзімір МАМОНЬКА,**

**старшыня Мінскай арганізацыі прафсаюза работнікаў культуры**

Вобраз спадарожніцы Пабла, Маргарыты, — не дапаможны сродак раскрыцця натуры галоўнага героя, а самастойны, яркі персанаж. Актрыса, якая стварае вобраз арыстакратычнай жанчыны, іграе “мінулае” Паблы, яго жыццё — да апошняй ночы на радзіме. В. Ліхадзей вельмі шчыра вымаўляе трагічны маналог Маргарыты, якая перанесла шмат пакут, калі яе схапілі ворагі. Гэта прыгожая жанчына калісьці кахала і цяпер кахае паэта. Шмат год таму яны былі блізкія, але час паставіў кропку ў іх адносінах.

Вядома, дзеянне спектакля не абмяжоўваецца толькі “мінулым” і “сённяшнім днём” героя. Аднолькава важную ролю ў п’есе мае і вобраз яго будучыні. Гэту сэнсавую нагрузку нясе персанаж Алены (Эмілія Пранскутэ). Гэта простая жанчына атуляе паэта мацярынскай любоўю, супакойвае яго, дапамагае знайсці сілы, каб з надзеяй прадоўжыць вандраванне.

Сардэчнасць і шчырасць гэтай гераіні, якая закахалася ў Паблу, хаця “не чытала яго кніг”, не могуць не спадабацца паэту. Вобраз надзеі, які стварае актрыса, — поўны непасрэднасці, дзіцячай веры ў дабро. У руках Алены з’яўляецца і “матэрыялізаваны” сімвал надзеі — прыгожы белы касцюм, які Маргарыта загадала ёй пашыць за адну ноч (і Алена пашыла яго разам з дзеткамі!). Маргарыта мяркуе, што ў шыкоўным касцюме паэт будзе адчуваць сябе ў бяспецы на параходзе: ніхто лішні раз не спытае ў яго дакументы. Але рэжысёр пераўтварае касцюм у адлюстраванне адносін Алены да Паблы. Раніцай Маргарыта паведамляе, што план уцёкаў рэзка змяніўся. Неабходна эмігрыраваць праз горы, дзе белы касцюм яму не толькі не спатрэбіцца, але будзе перашкодай. Вось тут і адбываецца самы галоўны ўчынак паэта: ён забірае белы касцюм з сабой.

Графічна “мінулае” і “будучае” Паблы Няруды на сцэне сімвалізуюць белы і чорны ветразі. Яны нясуць карабель-мару паэта да невядомага берага. Жанчыны ж, згодна публіцыстычнаму эпілогу спектакля, пойдуць з гэтага жыцця адразу пасля ўцёкаў Паблы. Выкарыстоўваючы стыль тэатра ценяў (дзве жаночыя постаці ўяўляюцца птушкамі), рэжысёр стварае моцны, незабыўны эпізод адыходу Маргарыты ды Алены (іх забіваюць фашысты). Адыходу Кахання, у якім чалавек і знаходзіць радасць на самай горкай планеце...

Незвычайны стыль пастаноўкі не можа не выклікаць у крытыкаў заўваг, у асноўным з прычыны таго, што сцэнічнае дзеянне ў спектаклі часам саступае месца ілюстрацыйнаму апавяданню — “чытанню” тэксту п’есы. Структура ж ролі Паблы вымушае акцёра А. Ткачонка манеўраваць паміж рознымі стылямі. Непасрэдна драматычныя (у тым ліку, камічныя) эпізоды спектакля чаргуюцца з элементамі тэатра эстрады. Жывыя дыялогі змяняюцца чытаннем вершаў і доўгімі паўзамі, якія акцёру трэба запаўняць пакуль гучаць песні. Толькі акцёр з багатым сцэнічным вопытам мог паспяхова ўвасобіць такую складаную ролю з улікам нетрадыцыйнага характару рэжысуры. Але ў адрозненне ад шматлікіх сучасных спектакляў, “Ноч у Вальпараіса...” мае пэўныя перавагі: тут пануе рэдкая ў сённяшнім тэатры ўзнёслая атмасфера. Спектакль А. Міхальцовай заклікае дзеячаў тэатра ў чарговы раз задумацца над праблемай змястоўнасці спектакляў, развіцця культуры і добрага густу ў публікі.

**Андрэй АХМЕТШЫН**

*На здымку: П. Няруда — А. Ткачонак, Маргарыта — В. Ліхадзей.*

*Фота А. СМОЛЬСКАГА*

не “закансерваваным” акцёрам. Ён вельмі творча паставіўся да гэтай ролі, шмат унёс у яе сваіх асабістых перажыванняў, адчуванняў. Яму здавалася, што вось тут трэба нешта такое... і не мог сказаць што, але як рэжысёр, я спрабавала дадумваць. Тэкст Люшэра прыстасоўвалі так, каб прагучаў як трэба для акцёрскага перажывання ў ім.

Спектакль я бачыла з жывой музыкай. Я думала, што А. Шадзько адмовіцца пісаць музыку, але ён з задавальненнем адгукнуўся на маю прапанову, яму таксама было цікава. І я лічу, што А. Шадзько стварыў цудоўныя песні на вершы П. Няруды. Мастаку В. Маршаку ўдалося ўпісаць у дэкарацыю белы экран, які быў мне вельмі патрэбны. Ён прапанаваў сваё бачанне гэтага спектакля. А над відэарадам мы працавалі разам з кінарэжысёрам С. Шульгой.

Вельмі хочацца аддзячыць швейцарскі культурны фонд “PRO-HELVETIA”, без дапамогі якога я б ніколі не паставіла гэты спектакль. Сёння матэрыяльных сродкаў у тэатры няма, на пастаноўкі практычна грошай не даюць: шукайце, зарабляйце іх самі. Знайшлі, зарабілі — паставілі. Не знайшлі, не зарабілі — не паставілі. Вось такая няпростая эканамічная сітуацыя, але тэатр, як вы ведаеце, без дадатковых капіталаўкладанняў існаваць не можа.

**— Ваш спектакль перадусім пра каханне, узаемаадносіны мужчыны і жанчыны. Але ёсць у ім яшчэ адна лінія, якая праходзіць другім планам: вымушаныя ўцёкі з Радзімы таленавітага паэта. Міжвольна ўзнікаюць паралелі з нашым часам, з нашай краінай...**

— Канешне, гэта ёсць. Аднак П. Няруда цікавіў мяне ў першую чаргу не як камуніст ці грамадскі дзеяч, а як чалавек.

Паэт кахае Маргарыту, але не можа быць разам з ёй, таму што яна не пагаджаецца з тым, што ён — для ўсіх. Памятаеце, як у Ахматавай: “Я тебя отвою у всех земель, у всех морей, у той одной/ Ты не будешь ничей жених, я не буду ничьей женой...” Так было ў П. Няруды, які мог належаць усяму народу, а толькі адной жанчыне — не.

Ён вымушаны быў уцякаць з Радзімы. Доўга пакутаваў ад гэтага, бо пакуль вярнуўся зноў у Чылі, прайшлі гады. П. Няруду вельмі любіў народ, ён быў сапраўдным нацыянальным здабыткам. І нездарма ў Алене, простай жанчыне, паэт абуджае духоўны, творчы пачатак. Яна пачынае сама пісаць вершы...

**— Гэта, па-мойму, Алена вымаўляе цудоўную фразу: “Калі б ва ўладзе былі жанчыны...**

— ...То вы б жылі заўсёды спакойна, заўсёды». І з гэтым цяжка не пагадзіцца. Мужчынскі і жаночы пачаткі павінны існаваць у гармоніі. У іншых краінах гэта зразумелі: жанчыны становяцца і ваеннымі міністрамі, і прэзідэнтамі... У нас жа да жанчын пакуль асаблівае стаўленне, таму...

**— І паэтам тут жывецца неспакойна.**

**Гутарыла В. БАРАБАНШЧЫКАВА**



## ЧАСАПІС

### “Роднае слова”, №№ 6, 7, 8

**Адкрываецца нумар развагамі галоўнага рэдактара “Роднага слова” М. Шавыркіна “Генацыд... Які ён?”, змешчаным у раздзеле “Школа і нацыянальнае Адраджэнне”. У гэтым жа раздзеле У. Содаль дзеліцца думкамі пра адукацыйнае тэлебачанне (“Лепей адзін раз убачыць”). Змешчаны працяг артыкула М. Тычыны “На павароце”, у якім разглядаецца беларуская літаратура канца XX стагоддзя. Чытач пазнаёміцца з артыкуламі Л. Карпавай “Акрыленыя Богам” (тэма любові, кахання ў творах К. Чорнага), А. Мельнікавай “Інтуітывісцкія тэндэнцыі ў творчасці Кузьмы Чорнага”, Г. Тычкі “Прымі нашу дзяку...” (штрыхі да партрэта Э. Ажэшкі), К. Хромчанкі “Жывая памяццю нашчадкаў” (жыццё і творчасць Лесі Украінкі), А. Бразгунова “Заходнееўрапейская белетрыстыка ў беларускай літаратуры X—XI стст.”, М. Прыгодзіча “Ён прылучаў да мовазнаўства нас...” (да 75-годдзя з дня нараджэння М. Паўленкі), М. Паўленкі “Асабовыя назоўнікі жаночага роду на -ка ў беларускай мове XIV—XVIII стст.”, В. Старычонка “Знаёмая незнаёмка” (гіпербала як мастацкі прыём), Т. Шамякінай “Гісторыя хрысціянскай культуры”, А. Багданавай “...Жыве мая ліра нанова!” (вобраз Цёткі ў беларускай культуры 1950—1970 гг.), В. Наталевіч “Культ вады ў купальскай абраднасці”, А. Бутэвіча “Мовай маёй маці” і іншымі матэрыяламі.**

●

**“Прадвесце адраджэнскага ўздыму” — штрыхі да творчага партрэта Я. Лучыны, напісаныя У. Мархелем. Змешчаны артыкулы А. Гурскай “Выток і свет мой...” (штрыхі да творчасці М. Арочкі), А. Бельскага “Платон Крэнь: хто ён?”, Л. Кісялёвай “Жанравыя асаблівасці беларускай камедыі XIX — пачатку XX ст.”, З. Падліпскай “Вобраз часу праз прызму беларускай філасофскай лірыкі апошняй чвэрці XX стагоддзя”, Э. Садаўнічага “Рамантызм у кантэксце гісторыі сусветнай літаратуры”, М. Прохар “Сродкі вобразнасці і аналітычнасці ў рамане І. Пташнікава “Мсціжы”, А. Аксамітава “Беларуская фразеалогія ў адносінах да польскай і рускай”, С. Фацеевай “Словазлучэнні-сімвалы ў беларускай вясельнай паэзіі”, В. Рагойшы “Янка Купала, Беларускай песні ўладар”, Л. Тарасюк “Адметнасць” (творчасць Я. Лучыны), Г. Адамовіч “Беларуска-іншанацыянальны кантэкст”, Г. Канцавой “Гіпертэкст”, Т. Фаменкі “Коласаўская серыя палотнаў Уладзіміра Сулкоўскага”, Л. Храмянковай “Сядзіба Сніткаў у Радашкавічах”, П. Міхайлава “Вялікі працаўнік і крыштальнай душы чалавек” (да 90-годдзя Ю. Міцкевіч). А. Пісьмянкоў прамаўляе слова пра М. Лужаніна “Дух горкай і гордай зямлі”, якое папярэднічае падборцы твораў М. Лужаніна “Вершы розных гадоў”. У раздзеле “Літаратурны ветразь” — вершы Л. Кебіч. Л. Захлеўны знаёміць з кампазітарам М. Алешкам. Публікуюцца ноты і словы песень, да якіх ён мае дачыненне.**

●

**У раздзеле “Школа і нацыянальнае Адраджэнне” з развагамі “Хараством асвятліцца ўвесь свет” выступае галоўны рэдактар “РС” М. Шавыркін. Багаты на матэрыялы раздзел “Філалогія”. Асоба і творчасць А. Астрэйкі — такі падзагаловак мае артыкул А. Бельскага “Паэзія пачуццяў”. Літаратурную спадчыну В. Каратынскага (“Меў вольную і чулую душу...”) разглядае У. Мархель. Змешчаны артыкулы У. Конана “Міфалагічныя і біблейскія матывы ў творчасці Янкі Лучыны”, В. Рагойшы “Папярэджваў развіццё беларускай версіфікацыі...” (Я. Лучына — вершаскладальнік), В. Ліс “Паэты пачынаюцца з тых дзён...” (праблема фарміравання асобы ў аповесці Я. Брыля “Сірочы хлеб”), А. Гурскай “Эпас памяці” (драматычныя паэмы М. Арочкі), І. Саверчанкі “Кірыла Тураўскі”, В. Рагаўцова “Іронія ў беларускай драматургіі” і іншых. Т. Тарасава (“Беларускай моладзі сваю паэму прысвячаю. Аўтар.”) дзеліцца аспектамі вывучэння паэмы Я. Коласа “Сымон-музыка”. М. Яфімава падрыхтавала літаратурна-музычную кампазіцыю да 150-годдзя з дня нараджэння Я. Лучыны — “Прыпаў сэрцам да зямлі сваёй...” З песеннай лірыкай Г. Бураўкіна знаёміць І. Бароўская (“Па той зямлі, дзе ўсё табою дыша...”). Чытач пазнаёміцца і з артыкуламі “Свет раслін у творчасці Якуба Коласа” С. Міцкевіч і А. Міцкевіч, “Тэатральная музыка Віктара Капыцько: “Князь Вітаўт” Н. Прафаціла, “Як цяжка князем быць — і верыць Богу...” (пра спектакль “Князь Вітаўт”) І. Завадскай, “Трываласць гімназічнага выхавання” (лёс выпускніка Нясвіжскай рускай гімназіі, беларускага паэта, кампазітара, мастака, краязнаўцы С. Новіка-Пяюна) А. Карлюкевіча і В. Карлюкевіч. Л. Захлеўны прамаўляе слова пра саліста ансамбля “Бяседа” В. Кірыленку. Прапануюцца песні з яго рэпертуару. Друкуюцца вершы А. Жамойціна, А. Астрэйкі і іншых аўтараў.**

# “Пішу пад дыктоўку сумлення...”

Прозвішча гэтай пісьменніцы калі і вядома, то вельмі вузкаму колу спецыялістаў-літаратараў. Тым больш, што сама Зоф’я Налкоўская належыць польскай літаратуры. Але з Беларуссю звязана. Жыла ў Гродне з 1922 па 1927 год. Пасля прыязджала сюды ў 1929-ым, калі ў горадзе адкрывалі помнік славутай Элізе Ажэшцы.

Аднак жыццё “на крэсах” пакінула велізарны след у творчасці празаіка. Ужо ў сваім першым палітычным творы міжваеннага перыяду — “Раман Тэрэзы Генерт” — адлюстроўваецца гродзенская тэма. І заканчваецца яна ў адной з апошніх работ “Вузлы жыцця”. У аснову пакладзены назіранні, дзённікавыя запісы, бурлівая дзейнасць самой аўтаркі.

Канечне, пасля сталічнай Варшавы правінцыйны Гродна падаўся ёй маленькім і забытым Богам. Адным словам, усходняе памежжа тагачаснай Польшчы, напаўкаланіяльны ўклад жыцця, сумесь народнасцяў. На 27 тысяч насельніцтва налічвалася 12 касцёлаў і цэркваў, кірха, мячэць і 60 сінагог. Колішні ўлюбёны цэнтр польскіх каралёў і Вялікіх князёў Літоўскіх. Мясціна, дзе захаваліся сярэднявечныя замкі і перліна праваслаўнага дойлідства 12-га стагоддзя — старажытная Каложа. Тут пісалі свае творы полька Эліза Ажэшка, яўрэй Лейба Найдус, правёў дзіцячыя гады Максім Багдановіч. Тут працавала Зоська Верас. Вёў адраджэнскую барацьбу Браніслаў Тарашкевіч...

Доктар філалагічных навук, прафесар кафедры польскай філалогіі Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта Святлана Мусіенка сабрала багаты матэрыял пра жыццё Налкоўскай, у тым ліку ў Гродне. Больш таго, стварыла адзіны ў свеце музей гэтай пісьменніцы. У вялікім, добра аформленым пакоі універсітэцкага будынка пастаянна праходзяць студэнцкія экскурсіі, асабліва, калі вывучаецца адпаведны перыяд польскай літаратуры. Не мінаюць гэтую мясціну шматлікія госці з Польшчы. Намаганнямі Святланы Піліпаўны на доме, дзе жыла Зоф’я Налкоўская, усталявана памятная шыльда работы скульптара У. Церабуна.

...Яна хутка перазнаёмілася з гродзенскім бамондам. Некаторыя тутэйшыя інтэлігенты мелі багатую біяграфію. Натарыус С. Земак удзельнічаў у лютаўскай і кастрычніцкай рэвалюцыях у Расіі 1917 года. Адвакат Т. Урублеўскі быў абаронцам на судзе лейтэнанта П. Шміта. Юрыст В. Фюрстэнберг з’яўляўся братам паплечніка Леніна — Я. Фюрстэнберга-Ганецкага.

Грамадская актыўнасць жонкі турбавала яе мужа — падпалкоўніка Яна Гажэхоўскага, прызначанага на службу ў Гродна. Гэты чалавек быў у вельмі блізкіх зносінах з самім Юзэфам Пілсудскім, імкнуўся не дапусціць, каб Зоф’я неяк дыскрэдытавала ягонае імя. Падпалкоўнік не ўхваляў занятак жонкі літаратурай, не кажучы пра палітычную дзейнасць. Свае думкі пісьменніца выкладала на старонках дзённіка. Многа месца адводзіцца тут вязням гродзенскай турмы, над якімі апекавалася пані Зоф’я. Асабліва яе хваляваў лёс зняволеных жанчын. Артыкулы Налкоўскай друкаваліся ў перыёдыцы. Дакументальная серыя пасля была выдадзена асобным зборнікам “Сцены свету” (1931).

Раздзелы музея так ці інакш адлюстроўваюць пазіцыю Зоф’і Налкоўскай. Асабліва ўражваюць фотаздымкі. Гэта гродзенцы 20—30-х. Знаёмыя і блізкія пісьменніцы людзі. Яна засталася ўдзячнай ім назаўсёды. Бо праз іх вывучыла гісторыю краю, характар яго насельнікаў. Пасля маленькі чалавек, непрыкметны гараджанін, набудзе ўласцівыя толькі яму рысы, запоўніць старонкі аповесцяў і раманаў Налкоўскай. Шматнацыянальны Гродна падказаў ёй тэму рамана “Нядобрая любоў”, які быў уганараваны літаратурнай прэміяй. Вобразы Гродна ўзгадваюцца ў рамане “Мяжа”. Раман “Вузлы жыцця” наогул утрымлівае амаль без зменаў дзённікавыя запісы. Нават назва Гродна не зменена. Шматграннасць таленту Зоф’і Налкоўскай нельга ўявіць без публіцыстыкі: эцюд “Гродна”, публікацыя “У шалашы”, прысвечаная памяці Элізы Ажэшкі.

Прафесар Святлана Мусіенка дэталёва вывучыла аўтарскі метад пісьменніцы. Пераканана, што без гродзенскага перыяду яе жыцця наўрад ці з’явіліся б на свет лепшыя творы гэтага самабытнага аўтара. Менавіта жыццё “на крэсах” дало ёй патрэбны матэрыял. Тут яна намацала сваю тэматыку, да якой не датыкаліся іншыя польскія літаратары. Раман “Мяжа” быў прызнаны лепшым творам 1935 года. Незвычайнасць матэрыялу, адкрыццё “невядомага” свету на ўсходзе Польшчы, аўтарскае бачанне праблемы “маленькага чалавека” на стыку міжнацыянальных адносін — гэта было новым для шырокага чытача.

Яна перажыла акупацыю Варшавы. Фашысцкае нашэсце адлюстравала ва ўласных запісах, выдадзеных пад назвай “Медальёны” і перакладзеных на многія мовы. Далёка не ўсе адназначна ўспрымалі яе творчасць. Шмат крытыкавалі за тое, што прыняла народны лад Польшчы савецкага ўзору...

Зоф’я Налкоўская была бытапісальнікам свайго супярэчлівага часу. У польскай літаратуры яна займае адметнае месца. Мы ж падкрэслілі толькі беларускія карані яе творчасці, уплыў гродзенскага перыяду жыцця, глыбокага па змесце. Бо тут, па сутнасці, яна адбылася як пісьменніца.

**Антон ЛАБОВІЧ**

*г. Гродна*

# Гульба святых

*(Заканчэнне. Пачатак на стар. 8 — 9)*

самы, з якім Пісталет Мікола кароў пасвіць... На твары — жудкаватая ўхмылка шчасця. Цікае!

— Ксеня, паскуства ты, гадасць! — крычыць Сержык Пісталетавым голасам і барабаніць у шыбіну.

Бразгае аб стол будзільнік. Аксеня падскоквае і бяжыць за печ хавацца, а мы з лёгкасцю ў душах, з пачуццём выкананага абавязку, не забыўшы зачыніць за сабою веснічкі, спяшаемся ў клуб.

Яшчэ здалёк нас сустракаюць гукі “полькі”. Усярэдзіне ў клубе пакуль чыста, не накурана, не наплявана, падлога вымытая. Музыкі размясціліся на сцэне, збітай з новых дошак; паўз сцены — лавы. Парассядаўся народ, самае старыччо і тыя, хто не таньчыць ніколі, толькі назірае, запамінае, каб потым цэлы год абгаворваць, як хто Міколу гуляў.

Мы выбіраем месца, адкуль нам усё відаць, а самі мы і незаўважныя, ціхенькія, сарамлівыя, смірненькія.

Ідуць танцы! Мужчыны мокрыя ад поту, але ніводзін не расшпіліць верхні гузік цеснай кашулі — ён замест гальштука. Жанчыны ў хустках, у аднолькавых панчохах і ў аднолькавых дубаскурых “тухлях”, якія, раз у год надзетыя, націраюць ногі да крыві, адсюль і пакута ў вачах замест радасці... Зрэшты, і мужчыны такія ж самыя. Сур’ёзна, спаважна таньчаць людзі, як павіннасць адбываючы, туп-туп-туп, раз-два-тры, паварот, і ўсё гэта моўчкі, без усмешак, без ахвоты, з выглядам, што трэба ж неяк перабыць і гэты, раз на год патрэбны абавязак.

Пасіўны настрой іхні перадаецца і музыкам. Іграюць яны ляніва, неахвотна, знарок збіваюцца, фальшывяць... На тварах — пагарда да “крастоў” з іхнімі “калхознымі” танцамі. Яшчэ і ўпрошваць музыкаў даводзіцца, каб сыгралі той жа “карапет” ці “рэчаньку”. “Мы ж таксама грошы давалі!” — нават да такіх аргументаў даводзіцца апускацца. Толькі чыхаць музыкам на вашыя праблемы. Ім што, цікава, як вы гэтага дня чакалі, як рыхтаваліся да яго, як прыбіралі клуб, сцэну рабілі, падлогу вышароўвалі; як яшчэ месяцы за два да свята хадзілі старэйшыя хлопцы па хатах — грошы на музыку збіраць, і як адрывалі ад сэрца скупаватыя людцы траячкі і пяцёркі — у залежнасці ад таго, колькі танцораў у сям’і, і як дзівіліся: “Чаго так многа, заўсёды ж па рублю было!”, на што ім цярпліва, з разуменнем цемнаты іхняй адказвалі: “Дык цяпер жа ансамбль будзе!” Што там ужо за ансамбль, хоць бы глянуць адным вокам, паслухаць адным вухам... Глянулі? Паслухалі? Гэта вам не баян з бубнам (апетыя некалі мексіканцам нашым, Клімовічам Вовам з-пад Ліды), тут культура — разумець трэба!

Аднак хоць так, хоць з горам папалам, а йдзе гульба. Падцягваецца памалу моладзь. Пайшлі ўжо ў танцах змешаныя пары-тройкі: стары з маладою, ці наадварот. Каму сапраўды тут весела, дык гэта Міколу Пісталету. Прыстроіўся да сцэны, бліжэй да музыкаў, знайшоў занятак — танцы агучваць.

***Выйду на рэчаньку,***
***Гляну на сяло-о-о!***

— спявае ён, свецячы жалеззем у роце, трымаючы перад сабою, як мікрафон, каменьку. І не выцягвае, заходзіцца ў кашлі. Нічога — з другога канца клуба Сержык ягоным голасам яму памагае:

***Дзеўкі гуляюць —***
***А мне не весяло!***

Эфект! Нават музыка на нейкі міг разладжваецца, нават танцоры застываюць у нямой сцэне: што такое?! Хто спявае? Два Пісталеты ў клубе, па розных кутках, ці што?!

— Ідзі вон адсюль, паскуства ты, гадасць! — крычыць Пісталет, не бачачы Сержыка.

А той штурхае мяне ў бок. “Вунь, глядзі, дзеўкі-штунды Гермачышыныя!” Гляджу. Дзеўкі як дзеўкі. Беленькія, прыгожыя. У джынсіках. Ні на якіх штундаў-цемрашалаў (так нас у школе вучаць) не падобныя. Адна нават пайшла “падыспань” таньчыць, з высокім Міколам і нізенькім Сідарам. Тры крокі ўперад, тры назад, перакрутка... Дзядзька Сідар у захапленні.

— Э-э-эх, ты ж і дзеўка... я б табе яшчэ... у тваю Госпада Бога душу!..

— Сват, не гнявіце ў Бога! — крычыць Сержык. Мы з ім заходзімся ад рогату.

Дзеўка толькі рдзее і патупляе вочы...

Перапынак. Музыкі п’юць і закусваюць проста на сцэне. Народ вывальвае на двор — перакурыць, таксама падзаправіцца... Нарэшце вось яна, кульмінацыя! Падняў бубнач над галавою палачкі, стукнуў тройчы — панеслася! Расступіся, старыччо, хавайся пад лаўкі, да сцен туліся! Адэса-мама, гэта табе не дулі вераб’ям паказваць! Саступі, Пісталет, месца профі!

Спявае саліст. Не так спявае, як выкідвае з сябе словы, крыўляецца, манернічае, ніжнюю губу аттатурчвае. На твары — адчуванне сваёй значнасці, ці нават так: месіянерскай важнасці носьбіта культуры ў масы.

***...И если вам в Одессе выбьют глаз...***

“А может два!!!” — падхоплівае клуб.

***...То этот глаз***
***не вставит сам Филатов!..***

Опа, опа, опа! Давай, давай! Вучыся, цемната на босу ногу, гэта табе не “карапет” з “падыспанем”, тут “ансамбля”, сам, бля! Гудзе клуб, стаіць тупат, звіняць шыбы, пагрозліва калываецца груба без коміну — цагляная бандурына, паралелепіпед метры два ў сячэнні і тры ў вышыню...

Клуб, калідор поўныя народу. Але на двары яшчэ больш. Кучкуюцца, выпіваюць хто стоячы, хто на якіх бярвеннях, на жэрдках, на выступе падмурка седзячы... Напаляецца патроху атмасфера. Ужо нават лакальныя, лёгкія сутычкі сям-там. Але ўсё гэта пакуль несур’ёзна, так, размінка.

Мы з Сержыкам цягнемся ў самы дальні, глухі куток двара і натыкаемся на кампанію чалавек з дзесяці. Сярод іх і нашая бялявенькая “штунда”, што так зачаравала дзядзьку Сідара. У адной руцэ ў яе цыгарэта, у другой чарка. На нас ніхто не звяртае ўвагі. Толькі гэтая бялявая.

— Вазьмі да сябе начаваць, — просіць яна раптам Сержыка п’яным голасам.

Што такое!? Сябар мой, ды ты разгубіўся?! Не пазнаю цябе! Можа, ты нават пачырванеў? Шкада, што не ўбачыць гэтага ў цемры...

— У мяне сваіх, такіх, як ты, поўная хата, — знаходзіцца Сержык нарэшце.

— Якія вы шчаслівыя, што нарадзіліся хлопцамі, — кажа яна з уздыхам. — Як я вам зайздрошчу...

Мы нічога не разумеем.

А час ідзе. Пакрысе пусцее клуб, разбрыдаюцца па хатах старыя. Усё даўжэйшымі робяцца паўзы паміж танцамі. І ўсё прыбывае агрэсіўнага, гарэлкаю і адэскімі скокамі заведзенага народу ў двары.

Хутка фінал! Ужо нецікава. Як ні ўвязваецца з хрысціянскім святам усё папярэдняе, але канцоўка ў яго ўжо проста пачварная. І дзеўкі! — нават малыя дзеўкі не разыходзяцца, а назіраюць — з прагнасцю, з шалам у вачах, аблізваючы вусны... Крыкі, трэск платоў, удары, падзенне целаў, мацюкі, жаласлівыя просьбы не біць больш і жывёльнае мангола-татарскае гіканне пераможцаў... Гэта цяпер зразумела, чаму ўлады не толькі падобныя “святы” не забаранялі, а яшчэ і заахвочвалі ўсяляк; гэта цяпер думаецца, што калі б, дапусцім, была б імі прызначана якая прэмія за лепшую прафанацыю так нелюбімай імі “лерыгіі”, за здзек з яе — дык проста бяры, афармляй у сцэнар апісанне ўсяго, прыходзь у гаркам, абкам, ці дзе яны там тусаваліся, атрымлівай грошы ў зубы і на пяту (не забыўшы адлічыць % дзвяноста пяць у які-небудзь іхні “абшчак” — Фонд міру, Фонд дапамогі Афрыцы...).

— ...Э-эх ты... тваю Госпада Пятра-Паўла-Камчацкую... маць перамаць Святую Дзеву!..

Вылятае з клуба на ганак спіною да людзей дзядзька Сідар — і не ўстойвае на нагах. Пакаціўся па прыступках, як Чарлі Чаплін у кіне, стукаючыся задніцай. Пад ганкам лёд, цвёрды, бетон, а не лёд... Бух!

Тыя, хто бліжэй, выразна пачулі, як з трэскам сухой палкі хруснула костка.

— Сват, я вас жа прасіў — не гнявіце ў Бога!..

Мікола Піцерскі мітусіцца вакол шалапутнага сваяка, не ведаючы, што рабіць, чым памагчы.

Сідар падняўся сам. Пераламаная мёртвая рука вісіць, як пустое рукаво. Па няголеных шчоках коцяцца слёзы. Ад болю ён цверазее на вачах. Для яго свята скончана.

Ды і нам пара ўжо, уласна кажучы, па хатах... Да новай зімы, да новага снегу, да новага Міколы!

***Вядомы беларускі паэт Артур Вольскі з'яўляецца аўтарам многіх кніг. Першы зборнік яго вершаў "Водбліскі далёкіх маякоў" выйшаў у свет у 1958 годзе, потым былі і іншыя: "Далёкія і блізкія прычалы" (1962), "Дабрата" (1966), "Выратавальны круг" (1974), "Наваселле дрэў" (1990), "След завірухі" (2000). Ён напісаў больш за сорак кніг для дзяцей і выдаў падручнік беларускай мовы "Беларусачка". П'есы Артура Вольскага ставіліся ў розных тэатрах Беларусі і за яе межамі. Спектакль "Тры Іваны — тры браты" ішоў на сцэне беларускага купалаўскага тэатра, быў пастаўлены ён і на Украіне. Дзіцячы вясёлы спектакль "Граф Глінскі-Папялінскі" ўвайшоў у рэпертуар Дзяржаўнага тэатра лялек, ведаюць яго і гледачы польскіх тэатраў. Першая ў беларускім мастацтве музычная камедыя для дзяцей "Сцяпан — вялікі пан", музыку да якой напісаў народны артыст Беларусі Юрый Семяняка, працяглы час не сыходзіла са сцэны Беларускага тэатра музкамедыі. Артур Вольскі і цяпер шмат і натхнёна працуе, вялікую ўвагу надаючы духоўнай паэзіі.***

# Артур ВОЛЬСКІ: "Жыццё — не знікне..."

Сапраўды, неспавядальныя шляхі Гасподнія: ніколі не ведаеш, дзе знойдзеш, дзе страціш, дзе сустрэнеш блізкага тваёй душы чалавека...

Пазнаёміліся мы не на літаратурным вечары, не ў бібліятэцы, не ў тэатры — у бальніцы... Абставіны, што спадарожнічалі нашай сустрэчы, былі даволі сумныя. Летам мінулага года я прыйшла наведаць хворага: свайго знаёмага, пажылога чалавека, былога ўрача. Артур Вітальевіч Вольскі знаходзіўся з ім у адной палаце. Ён ляжаў на ложку ў спартыўным касцюме, нязручна павярнуўшыся на бок. У ягонай позе адчувалася нейкая "вымушанасць": заўважна было, што яму нязручна так ляжаць. Мяне прадставілі яму, я падала руку, і ён, перамагаючы боль (гэта было відаць па ягоным твары) з цяжкасцю падаў сваю для поціску.

— Вольскі, — коратка сказаў ён слабым голасам. — Даруйце мне... Трэба было б устаць... Ды не магу: моцны боль.

Здаровай рукой ён падняў падушку пад галавой, каб лепш бачыць, з кім размаўляе.

Я села на крэсла і пачала гутарыць са сваім знаёмым Аляксандрам Фёдаравічам. Ён — чалавек бывалы, доктар ад Бога (Менюковіча памятаюць яшчэ пажылыя работнікі сталічнай "лечкамісіі"), да таго ж любіць расказваць розныя цікавыя выпадкі. Не абышлося без гісторыі і гэтым разам.

Артур Вітальевіч слухаў вельмі ўважліва, зрэдку ўсміхаючыся (пры гэтым вочы яго зіхацелі дзівоснай дабратой), але праз імгненне пагляд ягоны зноў зрабіўся сумным і глыбокім.

Мне адразу спадабаўся яго твар. "Сапраўдны інтэлігент. "Мой" чалавек", — падумала я. І да канца гутаркі была ўжо амаль упэўнена: гэта наша сустрэча не апошняя.

І, сапраўды, зімой я сустрэлася з ім, каб запісаць інтэрв'ю. Але першая наша гутарка была вельмі кароткай: ён кепска сябе адчуваў, яшчэ моцна балела рука. Сустрэліся мы ў Тэатры юнага гледача, дзе ён працаваў тады загадчыкам літаратурнай часткі. Дзверы яго кабінета былі адчынены. Проста ля ўвахода, у крэсле каля прыступак (і, як мне падалося, на скразняку) сядзеў сумны Артур Вітальевіч у пухкім шэрым світэры і прытрымліваў сваю хворую руку.

— Добры дзень. Як ваша здароўе? — спыталася я. Ён паглядзеў на мяне знізу ўверх (я стаяла на прыступках), і, прыхатаўшы ў яго журботным пaглядзе нейкую дзіцячую бездапаможнасць, раптам адчула няёмкасць. І адначасова зразумела, што на мяне нахлынула гарачая хваля сястрынскай (ці мацярынскай?) пяшчоты і дачынной ласкі да гэтага чалавека.

Прайшло паўгода, і на прэзентацыі кнігі Артура Вольскага "След завірухі" я ўбачыла зусім іншага чалавека: падцягнутага, стройнага, у цёмна-шэрым элегантным касцюме, з вясёлымі іскрынкамі ў вачах. Гаварыў ён бадзёрым голасам, быў энергічным і эмацыянальным. Ён надзіва "адчуваў" аўдыторыю і, што называецца, "не перавысіў рэгламенту" (каб не стаміць), пакінуўшы аб сабе вельмі прыемнае ўражанне ва ўсіх прысутных.

Сваю сустрэчу са слухачамі Артур Вітальевіч пачаў са слоў: "Маё асабістае жыццё пачалося з выпрабаванняў", паглядзеўшы пры гэтым на святара — іераманаха Арсенія, які знаходзіўся ў глядзельнай зале. Я ўжо загадзя ведала, што гэтыя людзі не пройдуць міма адзін аднаго...

У зале настала цішыня, калі паэт паведаў пра некалькі выпадкаў са свайго ранняга дзяцінства. Гэтыя гісторыі яму расказалі бацькі. Першы выпадак такі.

Праз некалькі дзён пасля нараджэння малога бацька забраў жонку з дзіцем з бальніцы мястэчка Койданава (цяпер гэта горад Дзяржынск), і паколькі пад рукамі нічога іншага не знайшлося, загарнулі немаўля ў грубы бацькаваў шынель. Дома яшчэ не паспелі падрыхтавацца да таго, дзе лепш уладкаваць дзіця. Ложак стаяў пусты, без матраца, і паклалі маленькага Артура проста на панцырную сетку. Бацька папрасіў свайго памочніка прынесці матрац, які сушыўся на вуліцы. Той прынёс яго ў дом і, не звярнуўшы ўвагу на шынель, што ляжаў (з дзіцем!), з усяго размаху ўзваліў яго на ложак...

На шчасце, голас у малога аказаўся пранізлівым, ды й бацькі своечасова спахапіліся, іначай... (як з усмешкай сказаў Артур Вітальевіч) "не было б мяне сёння на гэтай сустрэчы".

Быў і другі выпадак, неверагодны, ад якога нават дрыжыкі па целе прабеглі, калі паэт расказаў пра яго. Было гэта даўно, калі бацька яго служыў у пагранатрадзе. Прыйшоў ён неяк з дзяжурства, разабраў свой наган, пачысціў яго, сабраў і паклаў на стале, а патроны — побач. Адцягнуўшы ўвагу на дзіцячы крык (Артур быў тады яшчэ вельмі маленькі), ён узяў дзіця на рукі і пачаў супакойваць. У пакой увайшла маці, убачыла на стале патроны, падумала, што наган не небяспечны, жартам навяла яго на мужа і націснула на курок. І тут... прагучаў стрэл. Шалёная куля прайшла паміж галавой мужа і галоўкай сына...

— Цяпер я ведаю, што гэта былі першыя напаміны аб тленнасці нашага жыцця, — спакойна сказаў Артур Вітальевіч пад уздыхі і ўсплескі рукамі жанчын, якія слухалі яго аповед.

Далей, я думаю, час пазнаёміць чытачоў з невялікай часткай майго інтэрв'ю з паэтам:

— Вы казалі, што ў вас вельмі цікавы радавод...

— Гэтак мне здаецца. А як іншым — не ведаю. Я паходжу з творчай сям'і. Бацька мой, Віталь Вольскі, быў пісьменнікам, я вось таксама стаў пісьменнікам (калі мяне можна гэтак назваць). Карані мае польска-нямецка-літоўскія...

Раскажу вам пра адзін цікавы гістарычны факт. У Вялікім Княстве Літоўскім доўгі час вялікімі князямі былі польскія каралі. Палякі выбіралі сабе князёў на сойме, і звычайна з Дрэздэна. Вось неяк адзін дрэздэнскі кароль, які ўзначальваў Рэч Паспалітую і Вялікае Княства Літоўскае (гэта быў адзін з Жыгімонтаў), прыехаў на паляванне ў Белавежскую пушчу. І раптам адкуль ні вазьміся... ці то вяпрук, ці то мядзведзь — і кінуўся на караля. Але знайшоўся храбры егер, які рагацінай запароў страшнага звера. І кароль Жыгімонт (няхай ён даруе мне за тое, што забыўся яго імя), сабраўшы дома ўсю сваю прыслугу, паставіў егера на калені, выцягнуў шпагу, паклаў яму на плячо і сказаў па-нямецку: "Ду біст майн штэрн", што азначае: ты — мая зорка. Так кароль вырашыў пажалаваць егеру дваранскі тытул, але (магчыма, па рассеянасці) забыў даць зямлю наваспечанаму дваранiну. Прозвішча егера было Гвяздоўскі, а з таго часу ён пачаў называцца — штэрн фон Гвяздоўскі... Як ні дзіўна, ён быў адным з нашых даўніх продкаў. Раней я думаў, што гэта проста сямейнае паданне. Але аднойчы бацька прыйшоў з Акадэміі навук вясёлы і кажа: "Знайшоў нас у дзённіках Радзівілаў!"

— Артур Вітальевіч, як бы вы адказалі на славутае пытанне: пісьменнікамі нараджаюцца або імі становяцца?

— Мне здаецца, што гэта адбываецца раптам, нечакана. Прыходзіць — і ўсё. Я ж не думаў, што буду пісьменнікам: марыў стаць мастаком. Вучыўся ў Віцебскай мастацкай вучэльні на аддзяленні жывапісу (дарэчы, там жа вучыўся і Васіль Быкаў, толькі на аддзяленні скульптуры). Так што ў нас знаёмства яшчэ даваеннае. Праўда, пасля вайны, калі мы з ім сустрэліся ў Гродне, доўга не маглі вызначыць, адкуль мы адзін аднаго так памятаем. Аказалася, па вучэльні. Многія пісьменнікі захапляюцца жывапісам і графікай... Караткевіч мастаком не быў, але ён вельмі хораша маляваў. А нядаўна выйшла кніга "Лісты" з вершамі Рыгора Барадуліна, звернутая, умоўна кажучы, у эміграцыю Васілю Быкаву. Быкаў жа адказвае яму не прозай і не вершамі, а малюнкамі. Атрымалася вельмі сімпатычна. Накіды досыць простыя, але гэта можна назваць прымітывам высокага класа, зробленым прафесійнай рукой.

— Вы свае работы дзе-небудзь выстаўляеце?

— Апошні раз — на выставе ў 1962 годзе. Гэта былі замалёўкі тушшу пасля падарожжа ў Кызылкум.

— А што было пасля віцебскай вучэльні?

— Я не паспеў яе закончыць — пачалася вайна. У мяне вельмі складаны шлях. У 1942 годзе лёс закінуў мяне на Ціхі акіян. Хутка я атрымаў форму ваеннага марака. Кім толькі не быў: мінёрам, боцманам, а закончыў ваенным журналістам. Пасля вайны працягваў служыць на флоце. Дэмабілізаваўся ў 1952 годзе, прыехаў у Мінск і ў першы ж тыдзень прыйшоў прасіцца на працу ў "Чырвоную змену". Мяне ўзялі, даверылі ўзначальваць літаратурны аддзел. Памятаю, як да мяне ў гурток прыйшоў пасля філфака БДУ малады хлопец Грыша Барадулін. Тады я пасля дзесяцігадовага расстання з Беларуссю амаль не размаўляў па-беларуску, але пісаў на роднай мове. І хутка, звярнуўшы ўвагу на тое, як я працую над рукапісамі артыкулаў, тагачасны галоўны рэдактар Алесь Асіпенка прызначыў мяне стыльрэдактарам. Выявілася, што я ведаю мову лепш за іншых. Потым мяне запрасілі ў часопіс "Бярозка".

— І там вы працавалі працяглы час?

— Не. Паспеў пабываць камсамольскім журналістам, потым апынуўся ў піянерскім часопісе, а калі ўтварыўся дзіцячы часопіс "Вясёлка", то чамусьці адказным рэдактарам і сваім намеснікам Васіль Вітка (галоўны яго рэдактар) выбраў мяне. Потым Кастусь Кірэенка запрасіў мяне зноў у "Бярозку" на пасаду намесніка галоўнага рэдактара. Але к гэтаму часу я пасябраваў з тэатрам, і мне прапанавалі перайсці ў ТЮГ. Гэтак я стаў загадчыкам літаратурнай часткі Тэатра юнага гледача (у той час яго дырэктарам быў мой старэйшы таварыш Уладзімір Стэльмах). Там жа працуе і мая жонка — заслужаная артыстка Беларусі — Ларыса Горцава.

Да тэатра ў мяне асаблівая любоў. Тут ішлі мае п'есы. Першай была — сумесная з Петрусём Макалём — "За лясамі дрымучымі". Гэта была спроба адраджэння беларускай легенды, беларускага паэтычнага падання. Акрамя таго, я шмат перакладаў, у асноўным з рускай мовы на беларускую.

— Здаецца, лёс не абышоў вас уражаннямі. Успомніце, калі ласка, які-небудзь унікальны выпадак з вашай творчай біяграфіі.

— Вось, пэўна, цікавая гісторыя. Адбылося гэта праз два гады пасля вайны, калі мы толькі вярнуліся з-пад Харбіна, з тэрыторыі Маньчжурыі. У Хабараўску праводзілася канферэнцыя далёкаўсходніх літаратараў. І ад Чырванасцяжнай амурскай ваеннай флатыліі на Далёкі Усход быў запрошаны я, якужо прызнаны паэт, аўтар слоў вальса "Амурскія хвалі". Дарэчы сказаць, пісаў я тады на дзвюх мовах, але на беларускай не было дзе друкавацца, а на рускай выходзілі вершы ў маскоўскіх выданнях: газеце "Красный флот" і часопісе "Краснофлотец". Дык вось... Прыехаў я ў крайкам, дзе праходзіла канферэнцыя, здаў у гардэроб шынель, зайшоў у вялікую залу і ўбачыў чорную мэблю, масіўны стол, пакрыты зялёным абрусам, а ў галаве стала, па-гаспадарску развалiўшыся, сядзеў Аляксандр Твардоўскі. Суседнічаў з ім менш прыкметны Міхаіл Луконін. Калі я ўвайшоў, усе ўжо занялі свае месцы (вось-вось павінна было пачацца пасяджэнне). Твардоўскі паглядзеў на мяне і гучна сказаў: "Вось з цябе, старшына, і пачнём". Я крыху разгубіўся, але пачаў чытаць... па-беларуску (цяпер я разумею, што ў тых маіх вершах было не столькі паэзіі, колькі ваенна-марской тэрміналогіі: якары, мачты, путансы і ўсё што заўгодна). Гляджу: Твардоўскі слухае на паўвуха, а потым кажа (і кажа таксама па-беларуску (!) Пры гэтым я ледзь не ўпаў ад нечаканасці): "А скажыце, старшына, ці друкаваліся вы на Беларусі?" Я ачомаўся і адказаў: "Некаторыя вершы друкаваліся, а некаторыя — не", а ён, задаволена рассмяяўшыся, з гонарам пераклаў на рускую мову нашу гутарку ўсім прысутным. Ад гэтага ўсе таксама чамусьці рассмяяліся. Прачытаў я і рускія вершы... Потым, падчас перапынку, Твардоўскі падышоў да мяне і сказаў: "Ведаеш, старшына, не валяй дурня. Пішы па-беларуску".

Аказваецца, Твардоўскі валодаў беларускай мовай, ён быў родам з заходняй Смаленшчыны.

А ў 70-х гадах цяпер ужо мінулага стагоддзя я закончыў двухгадовыя Вышэйшыя літаратурныя курсы ў Маскве, якія мне вельмі памаглі як літаратару-пачаткоўцу. У нас былі найцікавыя выкладчыкі: вядомы пушкініст, прафесар Бондзі, выдатны эканаміст Ішуцін і іншыя.

— Жыццё ў вас багатае, насычанае. Вы, як мне здаецца, па характары чалавек вельмі энергічны, няўрымслівы...

— Цяпер гэтага не скажаш... З хваробай штосьці надламалася ўва мне. А заўсёды я быў менавіта такі, як вы сказалі.

Я цяпер часта думаю пра тое, што такое подзвіг... І прыходжу да высновы, што гэта з цяжкасцю паддаецца вызначэнню. Зноў напрошваюцца ўспаміны з ваенных гадоў. Калі мы ўвосень 1945-га ішлі ў Кітай, у Маньчжурыю, то пад горадам Цзямусамі вымушаны былі высадзіць марскі дэсант, таму што армейцы не маглі прайсці, і быў такі агонь, што ад яго дрыжэла зямля. Першым узняўся ў атаку мой сябар, матрос, старшына першай стацці Коля Галубкоў (я потым пісаў, што ён крыкнуў "За Родину, за Сталина", але прызнаюся цяпер, што пісаў няпраўду, нічога гэтага не было. Ён проста выгукнуў: "Матросы, за мной"). За ім ірванулі іншыя, і мы змаглі прайсці. За гэты бой я атрымаў медаль "За баявыя заслугі". А Коля — Героя Савецкага Саюза. Пасмяротна...

З таго часу я пачаў усур'ёз задумвацца: навошта мы на гэтай зямлі, дзеля чаго нас выбіраюць... Тады я яшчэ не быў вернікам, але ўжо прыйшоў да думкі, што хтосьці мяне ахоўвае (ведаеце, у мяне ж за вайну ніводнага ранення не было, ніводнай драпіны). Пераканацца ў існаванні Вышэйшай сілы прымусілі мяне і іншыя выпадкі...

Хутка пасля таго, як я прыняў хрышчэнне, святар нашай царквы даў мне даручэнне: атрымаць у другім горадзе "Біблію" на беларускай мове і прывезці яе ў Мінск. У мяне была свая машына, і я паехаў. Адлегласць была не блізкая... І вось атрымаў я кнігі і вырашыў заехаць да хворай маці. Пакінуў на нейкі час у яе ўсе трыццаць шэсць стосаў і вырашыў, што забяру кнігі пазней. Толькі вярнуўся ад мамы да сябе дадому, як тэлефануе святар. Тэрмінова спатрэбіліся кнігі: за імі прыехалі людзі з Асіповіч. Дамаўляюся сустрэцца са святаром каля пад'езда. Сустракаемся. Ідзём у маміну кватэру. А там — дзверы нараспашку (відаць, я, адыходзячы, не шчыльна іх зачыніў). Уяўляеце, на двары люты, мароз! З жахам уявіў, што магло б здарыцца з мамай, якая не магла хадзіць. Падумаць толькі: менавіта ў гэты вечар некаму тэрмінова спатрэбілася "Біблія"!

— Так, гэта была яўная падказка. І вось, вы прыйшлі да Бога?

— Не адразу. Прыйшоў, калі стаў чалавекам паважанага ўзросту. Я выбраў пратэстанцкую царкву (відаць, на гэта паўплывала тое, што бацька мой быў лютэранін). Але ў мяне шмат знаёмых сярод праваслаўных і грэка-каталікоў. Ведаеце, калі я захварэў, уся царква малілася за мяне, а браты і сёстры памагалі мне і лекамі, і клопатам сваім. Я вельмі ўдзячны ім за ўсё.

— Як вы ацэньваеце сучасны літаратурны працэс? Некаторыя мяркуюць, што беларускай літаратуры цяпер няма, што настаў яе спад...

— Літаратура існуе. І тая, якая сябе прыладкоўвае да яе, прыкідваецца літаратурай, і сапраўдная... Гэта той жа Васіль Быкаў (прачытайце яго прытчы і новыя апавяданні). Яго героі не прыдуманыя, яны ўзяты з самога жыцця. Вельмі добрымі празаікамі лічу таксама Андрэя Федарэнку і Вячаслава Адамчыка.

— Але ж амаль зніклі вялікія раманы, пісьменнікі прапаноўваюць чытачам у асноўным апавяданні і публіцыстыку. Магчыма, цяпер час не для раманаў?

— Магчыма. Рэч яшчэ вось у чым. Большасць беларускіх пісьменнікаў прыйшлі з вёскі, яны захавалі свой дух — вясковы, сельскі, — што вельмі дарагое само па сабе, але цяпер гэтага ўжо недастаткова...

— Вашы "творчыя" гены, ведаю, перадаліся сыну...

— Так, мой сын Лявон сачыняе музыку і вершы. Раней ён працаваў з ансамблем "Мроя", а цяпер з "NRM". Мне падабаецца, як ён піша, як чыста і хораша размаўляе па-беларуску (гэта ж вельмі прыгожая і меладычная мова, калі ўмееш ёю граматна карыстацца). Калі ён быў маленькім, я спрабаваў аддаць яго ў беларускамоўную школу і нідзе не мог знайсці такую, давялося аддаць у рускамоўную. Цяпер у Лявона свая сям'я. І ўсе яны размаўляюць па-беларуску.

*(Заканчэнне на стар. 15)*

## Дакументальнае фота

**Новы сезон мінская галерэя "Nova" распачала з сур'ёзнага міжнароднага фатаграфічнага праекта "Відушчае вока", у якім дзякуючы намаганням каардынатара праекта Уладзіміра Парфянка прынялі ўдзел фатографы Біл Крандал (ЗША) і Карэл Цудлін (Чэхія). Прычым атрыманы грант дазволіў запрасіць на адкрыццё выставы і саміх фотамастакоў. Сустрэча гэта, можна спадзявацца, была карысная не толькі мінскім гледачам, прафесійным фатографам і аматарам, але і самім удзельнікам акцыі, якія ўсур'ёз цікавяцца жыццём на постсавецкай прасторы. У галерэі "Nova" прайшлі таксама слайд-лекцыя аб сучаснай дакументальнай фатаграфіі ў ЗША і Чэхіі, "круглы стол" па пытаннях дакументальнага фота, адбылася сустрэча замежных гасцей з вучнямі фотастудыі мінскага Палаца моладзі, сябрамі народнага фотаклуба "Мінск", студэнтамі аддзялення дызайна, выставак і рэкламы БелАМа.**

**Біл Крандал апошнім часам многа падарожнічае па гарадах Еўропы. Акрамя Мінска, дзе ён ужо другі раз, Біл наведваў Вільнюс, Прагу, Бялград. Ён стала супрацоўнічае з "Washington Post", друкуецца ў шматлікіх газетах і часопісах, мае ўзнагароды Асацыяцыі фатографаў нацыянальнай прэсы. Выстава ў Мінску для яго першая персанальная. Цікавая для беларусаў творчасць і Карэла Цудліна, які з'яўляецца адным з персанальных фатографаў Вацлава Гавела, прэзідэнта Чэшскай Рэспублікі. Ён вядомы на радзіме серыямі дакументальных фатаграфій, прысвечаных вываду савецкіх войскаў з Чэхаславакіі, жыццю яўрэйскіх мястэчак на Украіне, культуры Чэхіі ў посткамуністычныя часы.**

**Праект "Відушчае вока" задумваўся не проста традыцыйнай азнаямляльнай выставаю. Хаця ў любым выпадку было цікава пазнаёміцца з "поглядам збоку", напрыклад, Біла Крандала на нас саміх. Ягоны Мінск зусім не ўспрымаецца рэпартажнай фіксацыяй. Тут няма новабудоўляў, адзнак еўрапейскасці, але няма і ўяўных знакаў галечы ці бруду. Прыцягвае шчырасць адносінаў мастака да свайго аб'екта. Нездарма ж Біл прыехаў год таму здымаць Мінск проста так, па сваім жаданні і за свае грошы, аднойчы пачуўшы ў палітычных навінах пра існаванне такой дзяржавы, як Беларусь. Ён успрыняў яе не з боку палітычных амбіцый, а проста чалавечых пачуццяў. "Людзі былі галоўнай мэтай маёй паездкі. Хацелася паказаць людзям, якія нічога не ведалі пра Беларусь, рэальную сутнасць гэтай краіны", — засведчыў Біл Крандал.**

**Карэл прапанаваў гледачам — як асноўны — цыкл здымкаў Украіны, якую ён, дарэчы, пазнаваў таксама самастойна і па ўласным жаданні. Цяпер ён мае там сяброў, як і Біл у Беларусі. І не толькі засвойвае асяроддзе гэтай краіны, але і эксперыментуе з ім.**

**Пытанне ролі сучаснай дакументальнай фатаграфіі для незалежнага назірання і захавання момантаў жыцця, яе выкарыстання ў кнігавыданні і прэсе надзвычай важнае зараз для беларускіх фатографаў. Будучае беларускім фотамастакам бачыцца вельмі неакрэсленым. Сыгралі тут ролю і адсутнасць спецыялізаванага друкаванага выдання, музея фатаграфіі, ці хаця б сур'ёзнай калекцыі ў адным з рэспубліканскіх музеяў. Фотапраектамі стала займаецца толькі сама галерэя "Nova", а адкрыццё аддзялення па падрыхтоўцы прафесійных фотамастакоў у Беларускай акадэміі мастацтваў з'яўляецца справаю будучага. Пра фінансавую падтрымку беларускія фотамастакі сёння нават і не згадваюць. Праўда, тая ж Чэхія фотамайстрам не прапаноўвае дзяржаўнай падтрымкі, кожная выстава ці альбом ствараюцца на спонсарскія грошы, знайсці якія таксама складана...**

**Але, думаецца, праблема тут больш глыбокая, чым матэрыяльная галеча. Адносіны да дакументальнай фатаграфіі фарміруюцца перыядычнай прэсай як да каментатара тэксту, звычайнага фіксатара падзеяў.**

**Быць фотамастаком стала на Беларусі нятанна і непапулярна. Тым больш гэта патрабуе вялікіх духоўных высілкаў, каб знайсці сутнасць моманту, яго вольнае разуменне, прапусціўшы жыццё праз сябе, асабліва калі гаворка ідзе пра сённяшнюю Беларусь...**

**Н.ШАРАНГОВІЧ**

ПАМЯЦЬ

# "Яшчэ сустрэнемся..."

***Радзеюць шэрагі тых, хто ведаў пісьменніка Аляксея Карпюка падчас Вялікай Айчыннай вайны, ці навучання ў Гродзенскім педагагічным інстытуце. На шчасце, засталіся пісьмы. Аляксею Нічыпаравічу пісалі шмат. Шмат лістоў дасылаў і ён. Частку з ліставання прапаную ўвазе чытачоў "ЛіМа".***

**А. Карпюк — бацькам. 13.2.1945**

"Зараз я знаходжуся ў Дзеючай Арміі ў Германіі... Наконт Валодзі (брат А. Карпюка. — **А. Л.**) Вы пакуль што не вельмі ўбівайцеся. Няма чаго без часу яго хаваць. Я ўпэўнены, што ён прыйдзе. Прашу перадаць маім былым партызанам мой адрас".

**Бацькам. 19.2.1945**

"Гонім немцаў. Разлічваемся за ўсё. Літасці да іх ніякай няма. Паўсюдна трупы, трупы. Па дарогах, палях многа нямецкай тэхнікі, разбітай нашымі войскамі. Гэтае пабоішча цяжка выкласці на паперы. Аднойчы быў у Варшаве пры вызваленні, дык там не бачыў аніводнага цэлага дома... Дашлі, бацька, мне фота, дзе ты з мамай..."

**Бацькам. 19.3.1945**

"15 лютага ў 13.00 быў паранены на шашы сярод лесу. Акружылі групу немцаў, якія хацелі вырвацца. Мы дапамагалі адбіваць атакі. Мяне параніла асколкам снарада ці ручной гранаты, кінутай з блізкай адлегласці. Закранула толькі мяккую тканку пляча. Быў у медсанбаце... Мясцовасць, дзе застаўся Валодзя, яшчэ не занята нашымі. На днях гэта будзе зроблена. Тады і дачакаемся ад яго вестак.

Шкада, што Вы не можаце бачыць, як немкі і старыя немцы, і тыя, хто здзекаваўся над нашымі палоннымі рабочымі, называў іх "швайн", зараз самі апынуліся ў такім жа становішчы. Усміхаюцца, працуюць на нас. Кажуць, што ва ўсім вінаваты Гітлер. Але ўсё ж такі нам ніхто не верыць".

**А. Карпюк — з вайсковага дзённіка. 15.4.1945**

"Мы на Одэры. Вучымся фарсіраваць раку. Я ў абозе. Як так? Прашуся на перадавую. Камбат дазваляе. Прызначылі наводчыкам да Разбокава. Першы эшалон. Немцы пастрэльваюць. Вечарам асколкі ўдарылі ў сценку над галавой..."

**Бацькам. 25.4.1945**

"Знаходжуся на вуліцах сталіцы Германіі — Берліне. Не ў якасці пленнага раба, а як дыктатар. Нас чакаюць апошнія баі".

**Бацькам. 30.4.1945**

"26 красавіка ў Берліне каля гадзіны дня паранены ў другі раз. Рана сур'ёзная. Асколак паміж 9 і 10 рэбрамі прабіў ніжнюю частку лёгкага і застраў. Прытомнасці я не губляў. Сам прыйшоў у санчастку. 27 зрабілі аперацыю, падшылі лёгкае, стала зручней дыхаць. Тэмпература была 38-38,1. Крыўдна, што паранілі ў апошнія дні вайны. Я ваяваў не для геройства, не для ўзнагарод, а проста гэта ў мяне ў натуры ляжыць, каб не хавацца ў кутках ці за чужой спіной. За прарыў абароны праціўніка на Одэры я ў ліку шасці чалавек з палка быў прадстаўлены да звання Героя Савецкага Саюза. Указ аб першых узнагароджаных прыходзіць, мяне чамусьці няма. Хаця, чаму здзіўляцца, я ж "заходнік". Людзям зверху падаюся нейкім контррэвалюцыянерам... Галоўнае, людзі, з якімі бліжэй жывеш, разумеюць цябе...

Мяне зноў эвакуіруюць. Я прайшоў з баямі з плацдарма на поўдзень ад Варшавы праз Паўночную Памеранію да Берліна".

**Бацькам 24.5.1945**

"Знаходжуся недалёка ад Берліна. Была тэмпература не ніжэй за 39 градусаў. Прайшоў рэнтген. 10 асколкаў у грудной клетцы засталося. Доктар сказаў, што так і застануцца,

# Скарбы чырвонай брамы

*(Заканчэнне. Пачатак на стар. 5)*

Я ведаў, што яна пралегла ад чырвонай брамы, што тую чырвань запаліў не толькі заход сонца, яшчэ за брамаю аж тры родныя хаты гарэла ў полымі злачынстваў, ляжалі ў зямлі вугаллем-прысакам войнаў і рэвалюцый, што далей ад брамы дарога ляжала праз Камарын, Дняпром — у Кіеў, з Кіева — у Львоў, з адной вучэльні на мастака ў другую, ад меншай у большую.

— За чырвоную браму я выйшаў у сорак пятым. Год быў цяжкі. Вучылі мяне ўсёй раднёй. Брат Мікалай працаваў аграномам і палову заробку пакідаў сабе, а палову аддаваў мне. Пасаблялі, як маглі, і мама, і дзед Міхась, і баба Сынклета.

Баба Сынклета сядзела на парозе вясковай хаты і на прыполе ў місе трымала яйкі. Нібыта несла з-пад курэй і прысела перадыхнуць, на яйкі падзівіцца: чысцюткія, бялюткія, буйныя.

— Яйка было ў нас у вёсцы сімвалам жыцця. — Во як! — а філасофія Сынклеты ў чатырох словах: Бог даў — Бог узяў. Тут — і жыццё чалавека, і ўвесь свет. Бог даў жыццё — жыві, пра смерць не думай, пра яе Бог падумае, жыві так, каб Бог ад цябе не адвярнуўся. Гэтак жыла Сынклета. Верыла ў Бога і сваю веру сеяла ў душах. А я, бывала, як да яе зайду, абавязкова перахрышчуся. Нідзе больш, а ў яе заўсёды.

Баба Сынклета, як я заўважыў, гонар мастака, як і Пампей, у святым німбе. А бацька, маці?

— Ад мамы я навучыўся працаваць. Кладзешся спаць, а яна яшчэ працуе, прачнешся — ужо яна працуе. Калі спала, мы, дзеці, не бачылі. І чым далей жыву, тым больш пераконваюся, што навука працаваць для мастака самая патрэбная. Які б талент ні быў, а без вялікай працы мастак не атрымаецца.

Партрэт маці — у цэнтры на сцяне. Вакол яе — сыны, вясковыя кабеты, хаты, крыжы, дарогі, ручнікі, партрэты жонкі мастака Мацільды Адамаўны. І нават — Жыцень?..

— Ад мамы, ад дзеда Міхася, ад Сынклеты мы з братам ведалі шмат народных песень, паданняў... І пра Жыценя мама казала. Дзядок невялікі, валасы тырчаць ва ўсе бакі, віхрасты, прыгнуты, ідзе нячутна, добры, але як раззлуецца, то бяды наробіць. Увосень ходзіць па палях ды выглядае, хто як працаваў. Знойдзе бароды непрыбранага калосся — завяжа ў сноп і сноп паставіць на чыста прыбраным полі. У наступным годзе там, дзе знайшоў бароды, будзе неўраджай, а дзе паставіў сноп — зародзіць жыта. Яшчэ дзед Міхась казаў, што злаваць Жыценя не трэба, а то завяжа жыта ў вузел — бяды не мінеш. І птушак любіць, даглядае, аберагае.

Як жа было не натхніцца пачутым ад дзеда і маці, якія гэтак паэтычна казалі пра Жыценя, быццам мелі шчасце трымаць яго калі не за бараду, дык за руку, і самі бачылі, як той завязвае бароды ды чубы. Натхненне мастака аказалася на ўзроўні народнага, і пад пэндзлем атрымаўся дзядок у жыце: вусы ды бровы — спелае калоссе, падрэзаная барада — колкія голкі ржышча, вочы з-пад каласоў ды з каласоў высвечваюць сінюткія, як васількі па жытніх межах, кожнага свідруюць дапытлівасцю, а ў жмені пук жыта, каб вузел завязаць — каму на пакаранне ці навуку?, — але і птушкі тут, у жыце, сядзяць спакойна пад дзедавай аховай, перапёлачкі, нібыта супакойваюць запалоханых, што дзед не злосны, справядлівы, і яго кара — ад дабрыні, любові да ахайнасці, ад рупнасці. Тут навука сэрцу добраму і сэрцу абыякаваму, тут таямніцы не пустыя асенняй ночы, ад якой можна чакаць бяду і радасць, трывогі і спакой, тут дыхаюць зямля і неба, зямля — зямным, спелай збажыною, неба — высокім, дзе жывуць багі, нават такія, што на зямлю сыходзяць да людзей, як Жыцень, усё пра нас ведаюць. Тут бачыш ды чуеш паляшуцкае паданне ў рэі збіральніка тутэйшага фальклору Сержпутоўскага і разам з тым украіншчына, якая не проста па суседстве за Прыпяццю, геаграфічна блізкая, але духоўна свая з маленства для мастака, які ў прасторы ад Прыпяці да Кіева і ад Кіева да Львова меў ахвоту і час надыхацца высокае паэзіяй яшчэ і ад Гогаля, ад бачанняў бурсацкага філосафа Хамы.

Тут, можа, сама школа жывапісу? Народнага і свайго, далёкага ды блізкага ў часе, паэтычна-ўзнёслага ды будзённага. Найжывапіснейшых узаемных пранікненняў, уплываў душ роднасных.

— Калі я выйшаў за браму, ішоў у далёкі свет, на Беларусі не было сваёй мастацкай школы.

— А Віцебск?

— Там былі таленавітыя настаўнікі і геніяльныя вучні, але не было нацыянальнай школы. Перад беларускім хлопцам у жывапісе ляжалі рэальна дзве дарогі: адна — саматужная, другая — праз школы суседніх народаў і мастацтваў, на поўначы — Расіі, перадзвіжнікаў, на поўдні — Кіева і Львова. Мяне, палешука, завабіла суседка Украіна. Адно ў нас Палессе, адна Прыпяць, адны гістарычныя карані, блізкія мовы, песні, але там больш нацыянальнай волі, як у нас, а воля — глеба, на якой вырастае і каласуе народ. Я туды ішоў па навуку жывапісу, а вярнуўся перакананым нацыянальным мастаком. Пасля Львова, мастацкага інстытута, працаваў у Малдавіі. Прайшоў і там навуку. На поўдні глыбей пераконваешся, што мастацтва караніцца ў нацыянальнай глебе. Там я адчуў, што ні ўкраінскім, ні малдаўскім, ні рускім мастаком я не буду, што я беларус, мастак беларускі. І я вярнуўся да сваёй чырвонай брамы.

На сцяне вісела карціна, якая мне падалася, як цяпер кажуць, знакавай. Матыў звычайны для Палесся: буслінае гняздо, у ім бусляняты, дзюбы ў якіх яшчэ не выспелілі, чорныя, а над імі — матка буслiная шырока распрасцёрла крылы. У звычайных для Палесся сюжэце і вобразе прачытвалася незвычайнае для мастака, які без бацькі рос пад матчынымі крыламі. А потым убачыў фотаздымак: маці, Надзея Міхайлаўна, трымае на каленях, абхапіўшы рукамі, нібыта крыламі, абодвух хлопчыкаў — такі паўтор, як у гняздзе, матыву мацярынства. Але, калі размова зайшла пра нацыянальную ідэю, адчуў, што і гэтакае бачанне карціны няпоўнае: у гняздзе бусліным, у крылах мацярынства, у выяве бусліхі-маці, як у чалавечай маці, жыла Айчына — не толькі матыў ды вобраз, а наш нацыянальны шлях — тэма не аднаго матыву і не адной карціны, а на ўсё жыццё. Пачатак тэмы, магчыма, быў тут — у матыве буслінага гнязда? І не мае значэння, калі матыў напісаны, раней, як тэму рушыла паводка птушыных крылаў, альбо пазней, у рэчышчы паводкі, — прываблівае пачуццё, укладзенае ў вобраз, дастатковае, каб кожны раз, працуючы над тэмай, знаходзіць усё новыя ды новыя арыгінальныя выявы, даваць ім нечаканыя і смелыя мастацкія рашэнні. У кожнай рабоце, у кожным вобразе і птушкі, і крыла жывога, алантанага змагаўцы з вышынёю, нават неверагоднаю, касмічнаю, ёсць адчуванне ўзнёслай рамантычнай мары і маладой крыві. Калі не кожнаму па сілах тэма трымае мастака ўсё жыццё, то ці не азначае гэта, што мастака не пакідае маладосць?

Ён успамінае:

— Палессе ў вачах з маленства: і край, і рай птушыны. Вясна, бывала, пачнецца — аблогі стогнуць ад шолаху і свісту пёраў. Тут птушыны міжкантынентальны порт. Усе птушкі, што праз Палессе лятуць з поўдня на поўнач і з поўначы на поўдзень, садзяцца тут, кормяцца, гняздуюць, ладзяць вяселлі, кірмашы, а мы, дзеці, гадаваліся на іх падобныя. Не хадзілі — лёталі. Рукі і ногі выраслі доўгія, нібы ў птушак крылы, ногі. Раскінеш рукі і ляціш з гары на рэчку, а там — вада, зямля і неба птушкамі затканыя. Такое дзіва!..

Зусім не дзіва, што ўзгадаваны ў царстве птушак, мастак злавіў аднойчы на пэндзаль адну з іх, а за ёю ўзняў у неба цэлы вырай. Сам не чакаў? Магчыма. Але свой вырай закружыў на доўгія гады.

"Крылы I".

"Крылы II".

"Крылы III".

"Крылы IV".

"Крылы V".

Чым паяднаў іх мастак? Малюнкам, колерам, імклівасцю палёту? Дзе перавясла, што звязвае, яднае крылы ў выраі? Была задума памірыць зямлю і неба?

— Пісаў я радасцю...

А радасць — не перавясла? Гармонія крыла і крылаў — хіба не вечная крыніца прыгажосці ды радасці? Трэба яшчэ паяднаць радасць і прыгажосць з сэнсам, з мэтай? Вядома. Асабліва для нашага мастака, які і прыгажосць, і радасць на поўную волю не адпусціць. Ён іх не зняволіць, ні ў якім разе, але з разумным сэнсам павянчае, выштукуе вянец — шлюб вечны.

— Я крылы першыя задумаў белымі...

Вось яно: пісаў дзяцінай, лічы — стыхійнай, радасцю, і ў той жа час задумаў крылы белымі: светлымі, чыстымі, як святасць. Нагледзеўшыся ў птушыным царстве на чаек, буслоў, гусей? Не толькі. Усё белае з маленства — свята: печ беленая да Вялікадня, пагафтаваныя фіраначкі на вокнах, бабулінымі ці мамінымі рукамі вытканыя ручнікі, крылы дзедавага ветрака. Белы зямны колер — шлях беларуса, як млечны ў небе — шлях Бога. А крылы — ручнікі ў небе. Усё, што ёсць рэч, мае свой цень, нават крупінка рэчы. І белае крыло — таксама? Ну, вядома, але цень — не цемень. Хай хоць крыжуе белае крыло — яно яшчэ чысцейшым выглядае ў высокім небе.

— Крылы імкнуцца ў неба, а там — блакіт...

Блакітных пара крылаў — сталасць белай мары, прарыў рамантыка ў найвышэйшую рэальнасць. А далей — што за блакітам? Зноў рай ці пекла? Агняны кратэр, вогнішча, жароўня? Там плата за палёт у блакіце як радасці, раскошы? Дык што рабіць? Ляцець у вогнішча ці павярнуць назад? Што мае большы сэнс — рызыка ці асцярога?

— Для светлай мары няма пытання. Праз полымя ляжыць шлях вартага і годнага жыцця...

Крылы ў агні смыляць, але ляцяць далей і вышэй. Што там, далей? Бой? Яны гатовыя на бой хоць з д'яблам: меч бліснуў пад крылом. О, там мужны рыцар? Але ён не анёл з нябесных войскаў Бога — дзіця зямное, завабленае небам, узнятае на крылах белай мары. Пральецца кроў? На белае крыло чырвоны пасак ляжа? Гэта — наш сцяг, наш лёс. Ён — Богам баслаўлёны. Мы — з Богам!

— Залоціць крылы сонца...

За мужнасць і адданасць небу ёсць узнагарода — сонца. Яно прывеціла крылатага Ікара, сагрэла крылы і чало, у кожнае пёрца ўпляло сваё ласкавае праменне. Ікар, нібы святы, паруе вольна, узняўшы годна крылы і склаўшы рукі на грудзях. Бог даў яму німб святасці, а ён ляціць па небе і тужыць па зямлі, глядзіць

# Рамельскі трыпціх

***Чалавек, звер, птушка... З давён-даўна ў адно цэлае знітавала іх прырода-матухна. І калі не без падстаў жывёл называюць братамі нашымі меншымі, то птушкі — сёстры нашыя меншыя. Колькі цікавых казак, легенд і паданняў складзена пра іх нашымі продкамі! Адны з іх, як і людзі, бываюць добрымі і лагоднымі, разумнымі ці не вельмі. Другія ж... Ды мяркуйце самі...***

●

Майскай ранічкай з ношкай першых крамяных агуркоў кіруюся на ровары да Альшан. Спяшаюся. Ды і як не спяшацца — канкурэнцыя да прыёмшчыка Ахмеда з боку альшанцаў — о-о-го якая! Спознішся — і будзеш паўдня стаяць у бурклівай чарзе, з якой цябе, як "пасяленца", таго і глядзі, выпхнуць мясцовыя абарыгены. Так, мушу паспешваць.

Ды раптам ля рамельска-альшанскага межавага знака "спатыкнуўся": пачулася музыка. Ды якая! То ў прыдарожным кустоўі вербалозу прызыўна заліваўся салавей. Ён то патрабавальна свістаў, то соладка цёхкаў, то млява-пакутліва ўздыхаў, быццам жаліўся, як ён, бядотнік, сумуе і прагне сустрэчы са сваёй ганарлівай каханай. Тая ж, відаць, была асобай упартай і абыякавай да яго кавалерскіх руладаў. Неўтаймоўнаму ж музыку яшчэ больш хмеліў і хмеліў галаву вясновы шал. Яму было "да лямпачкі", што нейкая двухногая істота бязмэтна поблізу корпаецца ў спраўным ровары. Яго не палохала нават бразганне вазоў па бруку, бібіканне матацыклаў і машын. Ён быў валадаром прыроды, якая знямела перад гімнам вясне, каханню, жыццю. Шэранькі малеча спяваў. Ён так зазыўна вабіў-плакаў, падпускаў такія пекныя лёстачкі сваёй выбранніцы і браў тады-сяды настолькі высокія ноты, што, здавалася, вось-вось сарвецца — не вытрывае яго маленькае сэрцайка...

...Я стаяў у хвасце даўжэзнай чаргі і блазнавата-шчасліва пасміхаўся. З сябе і таго ўтрапёнага кавалера-спевака. Падумалася: як бы ён здзівіўся, што і мы, двухногія стварэнні, сярод безлічы нягод і праблем, як і ён, можам радавацца і майскаму ранку, і яго песням, быць закаханымі... Ды не дадзена яму, хай сабе і цудоўнаму спеваку, зразумець: менавіта таму і захацелася тым двухногім істотам "людзьмі звацца". Яны ж, няўдзячныя, яшчэ і пакрыўдзілі салоўку, аднёсшы яго (бы ў насмешку!) да атрада... вераб'іных...

●

Пры ўездзе ў Рамель на выгане колькі дзён бачыў летась двух дзіўных бусляnят. Першы — бадзёра шпацыруе сабе туды-сюды на цыбатых нагах, часам узмахвае крыллем, паскоквае ўверх. Другі — маркотна стаіць, не зварухнецца, на адным месцы, сумна звесіўшы дзюбу, з апушчаным ледзь не да зямлі крыллем. Ну, акурат хворае дзіця! Здаецца, яго ніхто і нішто не цікавіць. Пяцігадовы ўнучак Саша і жабку яму прапаноўваў, і цукерчынай частаваў — не ўзяў, пагрэбаваў, ганарлівец, чалавечай увагай. Суродзічы ж буслянят высока ў небе пад спеў-клёкат плаўна кружынялі над вёскай, папярэдне пахадзіўшы па пожні за камбайнамі і падборшчыкамі саломы ў пошуках тлустых рыжых палёвак — назапашвалі сілы для няблізкага падарожжа ў цёплыя краі . А двое буслянят покі не маглі сягнуць у тую жаданую вышыню...

Пазней не стала відаць на выгане таго знаёмага сілуэта буслянят. Мы цешылі сябе аптымістычнай надзеяй: мо падужэў пад жыццядайным сонейкам і наш знаёмец, набраўся моцы дзесьці ў іншай "лячэбніцы"...

Лёгкага крыла табе, былое нехлямяжае бусляня! Вяртайся ўжо ў новым стагоддзі на сваю рамельскую буслянку да гасціннай бабулі — Ганны Шпігановіч, — на хляве якой твае клапатлівыя бацькі леташняй вясною змайстравалі для вас утульнае жытло!

●

Не адзін дзесятак год жыву ў вёсцы, ды такое надарылася ўпершыню. Напрыканцы ліпеньскага дня задыханая гаспадыня ўскочыла ў хату і ад парога залямантавала:

— Сядзіш са сваімі газетамі, а там нечы сабака куру душыць!

Як уджалены, усхапіўся з канапы, сунуў на ногі галёшы і стрымгалоў кінуўся да дрывотні. Там куры на чале з пеўнем учынілі такі вэрхал — хоць вушы затыкай, з пераляку ажно заходзіліся на розных танах. А ў пустым закутку чулася шалёная валтузня, ахвяра здушана-надрыўна стагнала, просячы паратунку.

— Там не сабака, а нейкая чужая шэрая птушка, — удакладніла гаспадыня.

Схіліўшыся нізка, аберуч абхапіў нечую тоўстую мяккую шыю і рэзка гэтак крутануў яе набок, аж штось хруснула. Не марудзячы, вывалак незнаёмца, нагамі прыціснуў да зямлі. Міма белай маланкай з дурным галашэннем скокнула да сваіх выратаваная чубатка.

Паядынак доўжыўся імгненні. Толькі цяпер агледзеўся па баках, зірнуў на сваю "здабычу" і аслупянеў — перада мной з растапыранымі крыламі і хвастом ляжаў вялізны (да метра размах крылаў!) прыгажун-ястраб. Яго кручкаватая дзюба некалькі імгненняў яшчэ лавіла паветра, гладкія даўжэзныя вострыя кіпцюры канвульсіўна драпалі зямлю — і агонія абарвалася. Толькі тады сцяміў, у якую небяспеку трапіла не толькі курка, але і яе выратавальнік.

Вохкалі-божкалі над пераможаным нахабнікам суседкі — Надзея Андрэйкавец і Марыя Ляшкевіч, прыпаміналі сваіх згінутых курак і куранят. А сусед — галоўны бухгалтар калгаса Антон Вандзіч сур'ёзна зазначыў:

— Ты, пісака, няйнакш, у кашулі нарадзіўся. Калі б сцярвятнік паспеў пусціць у ход дзюбу і кіпці, твае рукі не здолелі б узняць нават чарку. Маеш шчасце, што спрацаваў інстынкт: не толькі нясушку ўратаваў, ды і сябе не даў у крыўду...

Галоўбух, як былы паляўнічы, ведаў, пра што гаварыў.

...Арнітолагі сцвярджаюць, нібыта драпежныя птахі — "санітары" прыроды, маўляў, яны чыняць натуральны адбор, знішчаючы хворых птушак. Па іроніі лёсу, мой двор мяжуе з фельчарскім пунктам, з пасадак якога і спікіраваў на сваю пацыентку той дзюбаты "санітар". Так, моцным, нават прыгожым быў той шэры рабаўнік, далібог, яго шкада (дарэчы, не схацеў чамусьці паспытаць яшчэ цёплае дзічыны суседскі сабака Джэк). Ды яшчэ больш шкада тае бяскрыўднай чубаткі, што спраўна несла яйкі, нікому не замінала ў двары і якую нахабна схацеў "палячыць" санітар.

**Леанід РАМАНЕНКА,**
*в. Рамель, Столінскі р-н*

# Суфлёр

ПАДКАЗКІ—АНОНСЫ—ПАРАДЫ АД "ЛіМа"

## Літаратурны музей Максіма Багдановіча

*ЗАПРАШАЕ*

**прыняць удзел у Міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі**

***"Максім Багдановіч і іншанацыянальныя літаратуры",***

**прысвечанай 110-годдзю з дня нараджэння паэта.**

**Канферэнцыя будзе праходзіць 27 лістапада 2001 года ў Мінску, у Літаратурным музеі Максіма Багдановіча.**

**Асноўныя накірункі канферэнцыі:**

— Асоба М. Багдановіча ў нацыянальнай гісторыі і культуры;
— Творчасць М. Багдановіча ў сусветным кантэксце;
— Майстэрства Багдановіча-перакладчыка;
— Багдановічаўскія традыцыі ў беларускай літаратуры;
— Пераклады літаратурнай спадчыны Максіма Багдановіча на замежныя мовы.

**Формы ўдзелу ў рабоце канферэнцыі:**

— даклад — да 10 хвілін (для публікацыі — да 7 старонак);
— паведамленне — да 5 хвілін.

Рабочыя мовы канферэнцыі — беларуская, руская.

Просім паведаміць аб сваім удзеле і тэме даклада (паведамлення) да 27 кастрычніка 2001 г.

**Форма заяўкі:**

— Прозвішча, імя, імя па бацьку (поўнасцю);
— месца работы, пасада, вучоная ступень;
— назва даклада;
— адрас, кантактны тэлефон.

Па заканчэнні канферэнцыі плануецца выданне зборніка дакладаў. Для гэтага неабходна прадставіць тэкст даклада, набраны на камп'ютэры ў сістэме Microsoft Word для Windows і ягоную раздрукоўку ў адным экземпляры.

Рэдакцыйны савет пакідае за сабой права адбору матэрыялаў для выдання.

*Заяўкі дасылайце на адрас: 220029, Рэспубліка Беларусь, г. Мінск, вул. М. Багдановіча, 7а, на імя дырэктара Літаратурнага музея М. Багдановіча.*

*Кантактны тэлефон: (017) 234-13-57; 234-07-61, 234-42-69.*

## 10-годдзе Інстытута краіны

27 верасня ў сталічным Доме дружбы адбудзецца святкаванне 10-годдзя Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Францішка Скарыны.

Ён быў створаны пастановай Савета Міністраў у 1991 годзе пры Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. У 1993 годзе перайшоў у падпарадкаванне Міністэрства адукацыі. Збіраючы і вывучаючы самую розную інфармацыю пра Беларусь, назапашваючы і папулярызуючы веды пра яе, Скарынаўскі цэнтр, са слоў ягонай дырэктаркі Любові Уладыкоўскай-Канаплянік, па сутнасці выконвае функцыі Інстытута краіны. Сімвалічна і тое, што размешчаны ён на Рэвалюцыйнай, 15 у колішнім будынку Інстытута беларускай культуры — Інбелкульта. Сярод супрацоўнікаў Скарынаўскага цэнтра такія вядомыя вучоныя, як Адам Мальдзіс і Уладзімір Конан.

## Конкурс імя Ежы Гедройца

Польскі інстытут у Мінску абвясціў другі конкурс імя Ежы Гедройца, прымеркаваны да гадавіны ягонай смерці. Ежы Гедройц, які нарадзіўся ў Мінску, памёр летась 14 верасня ў Мезан-Лафіце, што пад Парыжам, ва ўзросце 94 гадоў. Е. Гедройц вядомы як заснавальнік у Парыжы ў 1947 годзе і рэдактар да самых апошніх дзён культавага часопіса "Культура", ён багата зрабіў у часы камуністычнай дыктатуры для развіцця польскай, украінскай, літоўскай і беларускай культур. Дарэчы, частка ягонай спадчыны гэтай вясной аказалася ў Мінску, у Нацыянальнай бібліятэцы. У якасці падарунка сюды былі перададзены каля 2 тысяч тамоў з кнігазбору Ежы Гедройца парыжскага Інстытута літаратуры, сярод якіх камплекты часопіса "Культура" і "Гістарычныя сшыткі"...

У конкурсе імя Ежы Гедройца могуць браць удзел артыкулы, тэле- і радыёперадачы, што пабачылі свет на працягу 2001 года на тэму беларуска-польскіх узаемадачыненняў у галіне культуры, навукі і літаратуры. Цырымонія ўзнагароджання пераможцаў конкурсу адбудзецца напрыканцы студзеня 2002 года.

**К. П.**

## "Зьніч" запрашае

У канцэртнай зале Беларускай дзяржаўнай філармоніі да Міжнароднага дня музыкі (27—28 верасня) Беларускі паэтычны тэатр аднаго акцёра "Зьніч" прапануе прэм'еру рамантычнай монаоперы ў 2-х дзеях аб жыцці і смерці Адама Міцкевіча (паводле твораў А. Міцкевіча, Я. Чачота, Р. Барадуліна) "Адзінокі птах". Кампазітар Алег Залётнеў. Аўтар лібрэта і рэжысёр-пастаноўшчык — Галіна Дзягілева. Выканаўца — заслужаны артыст Рэспублікі Беларусь, лаўрэат міжнародных конкурсаў Міхаіл Жылюк. Пачатак а 19-ай. Білеты прадаюцца. Даведкі па тэл.: 231-75-53, 284-77-66.

Уладзімір ЕРМАЛАЕЎ

### Каханне выпівохі

***Ён тады шануе Гэльку,
Як на стол
падасць бутэльку.
А калі няма бутэлькі,
Начаваць не будзе ў Гэлькі.***

### Прагматычная жонка

***Мне жонка
ўсякі раз бубніць:
— Кідай
у рыфмы гульбы.
Паэтам можаш
ты не быць —
На гэта сёння
не пражыць.
Глядзі на дачы бульбу.***

### Стары бабнік

***Не той імпэт,
не тая страсць,
Налева чэрці
ўжо не носяць.
Быў час — баяўся,
што не дасць,
Цяпер баіцца,
што папросіць.***

### Ці справядліва?

***Не справядліва —
хоць крычы,
Такі адвеку быт.
Багатым Бог дае харчы,
А бедным —
толькі апетыт.***

Павел САКОВІЧ

### Юбілейны марафон

Юбілейны марафон
Такое вось яно, быццё:
За юбілеем юбілей
**Яўген КАРШУКОЎ**

***Да юбілеяў лепш было:
Без клопату і без гарэлкі...
А потым як з гары
пайшло —
Нібы шпарчэй
пабеглі стрэлкі...***

***Паўста было во толькі што.
Праз пяць гадоў —
ізноў застолле...
Мне вэрхал гэты
ўвесь — нашто?
Ён апрацівеў мне да болю.***

***А тут глядзіш —
ужо і шэсць
Дзесяткаў
раптам падступіла.
Сябры мне "аказалі чэсць",
А я цярпеў з апошніх сілаў.***

***Затым яшчэ мінула пяць.
Зноў п'янка,
мітусня, гаворка.
Вяселле й то
лягчэй спраўляць.
Ці не таму шапчу я:
"Горка..."?***

***Такое вось маё быццё —
Да ста не будзе ўжо спакою.
Не нараджаўся б,
каб знаццё.
Эх, юбілейнае жыццё...
Ва ўсіх славутасцяў такое!***

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА
ЛіМ
ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ
**Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**

**Галоўны рэдактар**
**Алесь ПІСЬМЯНКОЎ**



**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
**220005, Мінск, вул. Захарава, 19**

**ТЭЛЕФОНЫ:**
**прыёмная рэдакцыі — 284-8461**
**намеснікі галоўнага рэдактара — 284-8525, 284-7985**
**АДДЗЕЛЫ:**
**публіцыстыкі — 284-8204**
**пісьмаў і грамадскай думкі — 284-7985**
**літаратурнага жыцця — 284-8462**
**крытыкі і бібліяграфіі — 284-7985**
**паэзіі і прозы — 284-8204**
**музыкі — 284-8153**
**тэатра, кіно — 284-8153**
**выяўленчага мастацтва — 284-8462**
**фотакарэспандэнт — 284-8462**
**бухгалтэрыя — 284-8462**
**Тэл./факс — 284-7965**



**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня Рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79)

Індэкс 63856 Наклад 2556
Нумар падпісаны ў друк 20.9.2001 г. у 17.30

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715

Заказ 5459

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12